# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Навасельскі ➔3



Вольга Якута ➔8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 11 (3279) Год LXIV | Беласток, 17 сакавіка 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



# 8 Сакавіка з «Але бабкамі»



Кветкі, пажаданні і беларуская музыка — так адзначылі Свята жанчын у Случанцы. Тут у вясковай святліцы 8 Сакавіка адзначала амаль паўсотні жанчын з ваколіц і з-за мяжы. Святкаванні былі вельмі арыгінальныя, не толькі з-за таго, што гэта такое наша, жаноцкае свята, а таму, што першы раз у маім жыцці я была адной з удзельніц так шумнай і амаль выключна жаночай імпрэзы.

Нейкі час таму я выбралася ў Случанку па слаўны хлеб, які выпякае спадарыня Аня Трахімчык. — Мой хлеб захвальвала сама дырэктарка Белсата, — сказала спадарыня Аня, якая з'яўляецца таксама старшынёй таварыства «Але бабкі».

Па той ласунак прыязджаюць з усёй ваколіцы.

— Мяне з мужам калісьці затрымалі пагранічнікі, — расказвае спадарыня Бася. — Пытаюцца: «Куды едзеце?» Мы адказалі, што па хлеб у Случанку. «Да пані Ані?» — запыталі. «Тады едзьце», — адказалі і нават не правяралі дакументаў!

Наогул «Але бабкі» — гэта таксама свайго роду кулінарная «ўстанова». Калі трэба падрыхтаваць рэгіянальныя далікатэсы на нейкае мерапрыемства, заўсёды можна разлічваць на гаспадынь са Случанкі. Самі прызнаюцца, што любяць варыць, перш за ўсё на сваіх прадуктах. За іх вельмі смачныя стравы ўжо неаднойчы атрымлівалі пахвалы і ўзнагароды. Іхні бігас, квашаныя гуркі ці свойскі хлеб маюць сваіх аматараў не толькі на Падляшшы, але ўжо нават і ў Польшчы.

Случанка — родная вёска Ігната Карповіча. Менавіта «Але бабкі» супольна з Дарыюшам Жукоўскім сарганізавалі імпрэзу на мосце, якому прысвоілі імя герояў кніжкі «Сонька» — Сонькі і Ёахіма. Жанчыны апрача таго ездзяць на роварах, арганізуюць экскурсіі і ўдзельнічаюць у тэатральных майстар-класах, якія вёў там Міхал Станкевіч. Калі трэба, сарганізуюць дошкі, мужчын і на адзін дзень перад вясковай святліцай з'явіцца сцэна.

— Перавага жанчын такая, што яны неяк больш сарганізаваныя чым мужчыны, — кажа Анка Трахімчык, дачка Анкі з «Але бабак». — Мужчыны сядуць і вядома (*смех*). А жанчыны любяць пагуляць, патанцаваць і паспяваць.

І сапраўды, мерапрыемствы, якія арганізуюць «Але бабкі», непрэтэнцыёзныя, вясёлыя і вельмі смачныя.

— У нас ёсць такая магія, мы такія дружалюбныя. Любім добра пачаставаць, — адзначыла спадарыня Аня Садоўская. — У нас ці запусты, ці Новы год, ці напрыклад свята на мосце, мы заўсёды гатовы да арганізацыі. Свята жанчын таксама — дамовіліся, што будзем святкаваць: складчына, назапрашалі людзей і святкуем!

Я не ведала ці атрымаецца мне прыехаць, але ўнутраны голас мне падказваў, што крыху забавы мне належыцца. Тым больш, што ніколі так урачыста я не адзначыла гэтага свята. А ў Случанцы 8 сакавіка святкавала амаль паўсотні жанчын. Было толькі двух мужчын (не, гэта не быў гурт *chippendales*) — войт і дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку.

«Жадаем, каб вы заўсёды адчувалі гэта, што з'яўляецеся самай важнай групай у грамадстве», — такія пажаданні паплылі ад войта Гарадоцкай гміны Веслава Кулешы, які апрача таго супольна з лідарам гурту «Прымакі» Юркам Астапчуком праспявалі «Многае лета» і «Сто лят». Апрача таго на рукі Анны Трахімчык перадалі кош ласункаў і пяцілітровы бакал віна.

— Збіраем усіх і інтэгруемся з усімі. Вельмі файна! — сказала Аня Трахімчык. — Да нас прыязджаюць Гарадок, Беласток, Грыбаўцы, Юшкаў Груд — ізноў тут.

Жанчын у случанскай святліцы чакала смачная яда, конкурсы, песні, якія падрыхтавала Багуслава з гурта «Прымакі», але перш за ўсё спантанная забава. Анна Верамяюк з гурта «Паўдніцы» праспявала белым спевам «Многае лета». А кожная з удзельніц магла расказаць смешны анекдот ці жарт — найчасцей гучалі тыя, у якіх менавіта жанчыны былі тымі мудрэйшымі і больш вынаходлівымі.

Кожны мае свой любімы спосаб на выкарыстанне свабоднага часу, але зараз ужо ведаю, што 8 сакавіка варта сустракаць у жаночай кампаніі, нават калі гэта меў бы быць вечар з цёцяй. А 8 сакавіка з "Але бабкамі" гэта сапраўды эксклюзіўная вечарына, з якой чалавек вяртаецца багацейшым на новыя ўражанні, жарты і пэўна чарговыя кілаграмы. Але, як мне сказала мая вучаніца, смокчучы пальцы, якія выцягнула са слоіка з шакаладнай пастай «Нутэла», 8 сакавіка не таўсцеем.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**





# Для роздуму

„Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі...”. Такімі словамі звярнуўся ў 1881 годзе да беларускай нацыі ў прадмове да свайго першага зборніка вершаў „Дудка беларуская” славуты беларускі паэт, празаік, публіцыст і патрыёт Францішак Багушэвіч.

А праз 138 гадоў ад таго далёкага часу, у незалежнай краіне з ганаровай назвай Рэспубліка Беларусь, падчас арганізаванай беларускімі ўладамі „Вялікай размовы з прэзідэнтам”, да кіраўніка краіны звярнулася дэпутатка Палаты прадстаўнікоў Алена Анісім з пытаннем пра стварэнне ў суверэннай беларускай краіне ўніверсітэта з беларускай мовай навучання... Ну хоць аднаго такога ўніверсітэта...

На гэтай саркастычнай ноце можна ўжо было б і заканчваць гэты фельетон і брацца за іншую тэматыку. Бо як па мне, моўная тэма і на „Вялікай размове з прэзідэнтам” у прыватнасці, і ў сённяшняй Беларусі ўвогуле раскрытая цалкам ужо ў першых двух абзацах. Усё астатняе, гэта ўжо дробныя дэталі. Ну як прыкладам тое, што пытанне выглядала як просьба, зрэшты як і ўсе астатнія пытанні, на ўсе іншыя тэмы.

Ну сапраўды, у каго ж яшчэ можа прасіць спрыяння ў выкананні закону пра мовы прадстаўніца Таварыства беларускай мовы як не ў начальніка дзяржавы?! Ну не патрабаваць жа ёй гэтага ад навучальных устаноў непасрэдна, выкарыстоўваючы свой мандат дэпутата Парламента?! Ды і ў судзе нагадваць пра тое, што беларуская мова мае статус дзяржаўнай таксама немэтазгодна. Вось толькі і застаецца біць чалом на людзях.

Кіраўнік краіны не здзівіўся такому пытанню. Сказаў, што гэтую тэму трэба прапрацаваць. Алена Анісім таксама ані трошкі не здзівілася такому адказу. І ніхто не здзівіўся, ні пытанню, ні адказу, ні далейшым тлумачэнням. Беларускі начальнік крыху паразважаў пра тое, што моўнае пытанне нельга палітызаваць, і што пакуль ён прэзідэнт, то не дапусціць, каб людзей дзялілі па той прыкмеце, ведаюць яны беларускую мову ці не. І ўвогуле ён супраць таго, каб некаторыя фарсілі беларускай мовай.

Так што ці даў поўны і грунтоўны адказ беларускі лідар на пытанне ці будзе ў Рэспубліцы Беларусь універсітэт з беларускай мовай навучання хай кожны вызначыць сам. Зрэшты, думаю і да гэтага ўсім было зразумела, што ў беларускіх універсітэтах хутчэй будзе можна атрымаць вышэйшую адукацыю па-кітайску, чым па-беларуску.

Увогуле ў той дзень беларускі кіраўнік па моўным пытанні ўсё ж зрабіў свой канкрэтны пасыл. Ён сказаў, каб не адмаўляліся ад рускай мовы, бо руская мова гэта вялікая, і гэта наша. І калі мы ад яе адмовімся, то некаму падарунак зробім. Атрымалася амаль па Багушэвічу. Толькі назва мовы іншая.

Ну але хопіць пра тыя дэталі. Моўная ж тэма цалкам раскрытая ў першых двух абзацах. Незразумелым застаюцца іншыя рэчы, пра якія можа і варта пагаварыць. Прыкладам, навошта задаваць такое пытанне адрасату, калі дакладна ведаеш, які будзе ад яго адказ?! Ну і чаму, напрыклад, не задаць падобнае пытанне тым, чый адказ будзе не такі адназначны, а ў прынцыпе мусіць быць набліжаны да Багушэвічаўскага. Спытаць у некаторых лідараў грамадскага сектара, чаму яны праводзяць семінары і розныя шматлікія навучанні для беларускай актыўнай моладзі па-руску, спытаць у рэдактараў некаторай незалежнай прэсы, чаму яны ўсё радзей ужываюць беларускую мову на старонках сваіх друкаваных выданняў, спытаць у кіраўнікоў незалежных інтэрнэт-рэсурсаў, чаму яны напачатку робяць дадатковую версію на рускай мове, а пасля ставяць яе асноўнай. Ці не нагадвае гэта афіцыйную сітуацыю з двухмоўем? І чаму яны, набіраючы больш праглядаў ад небеларускамоўнай публікі, тым самым дзеля сваіх шкурных інтарэсаў выцясняюць з інтэрнет-прасторы тых, хто застаецца верным роднай мове і запаветам такіх нацыянальных герояў як Францішак Багушэвіч...

І вось гэта сапраўды тэма вартая асэнсавання і дэталёвага вывучэння. Калі і дзеля чаго адбылася знявага да беларускай мовы з боку тых, хто прымазваецца да актыўнай беларускай эліты. І духоўнай, і культурнай, і палітычнай эліты. І яе ў двух абзацах, гэтую тэму, не раскрыеш. Таму яна пачатая пакуль што для роздуму. Працяг будзе.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Аб падмане... афарбоўкай

Штодзённае жыццё мае свой уласны рытм, які, аднак, хутка стамляе. Адпачынак-праца больш ці менш важныя, умоўныя або безумоўныя дзеянні дня... Часам гэты рытм раздражняе, выклікае дэпрэсію. Часам, аднак, дапамагае ўзяцца за задачы жыцця. Заклікае да абавязку. Ставіць на ногі. Папіхвае наперад. А потым — з горачкі... Да наступнай раніцы.

У гэтым рытме ўсталяваны — якая нямёмка рэч! — штодня шлях у туалет. Толькі шчаслівчыкі пойдуць у туалет на двары! Пры ўмове, што той флігельчык чысты, з зашклёным вочкам у каро або сэрцайка, працяты сонечным ці месячным святлом, пастаўлены з жывых дошак і прыгожа прыхаваны, напрыклад, пад карнізам яловых галінак. Маю такі ў закутку свайго садка — мілы помнічак архітэктуры. Музейны ўзор, карпатлівы выраб дойлідства саракагадовай даўнасці, збіты маім дзядзькам з сасновых дошак, якія сёння, пасля многіх гадоў, глядзяць на свет вачніцамі ад выпаўшых сучкоў. Дзе там сучаснаму туалету да яго! Хоць у мяне ёсць і больш мадэрны.

Туалет і прыбіральня ў двары з'яўляецца прыкладам спрэчнай формы і зместу. З аднаго боку цывілізацыйнае табу, выклікаючае збянтэжанасць, сорам, што часта прыводзіць да апантанасці наконт чысціні, з другога — інтымнае задавальненне ад здаровага і ў нічым нязручнага справавання. З аднаго боку бесчалавечная прастора, абкладзеная пліткай, адштурхоўваючая холадам стэрыльнасці. Гэта адпавядае форме ў чыстым выглядзе. З іншага, дыхаючы спакоем і цеплынёй дошак з выразным рысункам слаёў дошак — традыцыйны, чалавечны срачык. Яму прыпісваюць абсалютнае значэнне. Дзюн'іціра Танідзакі, тытан дваццатага стагоддзя японскай літаратуры ў сваім эсэ «Гімн у гонар японскага сарціра» пісаў: «(...) Прыбіральня з'яўляецца ідэальным месцам, каб слухаць гудзенне насякомых і спевы птушак; добра падыходзіць таксама для любавання месяцовым святлом ці смакавання сутнасці свету ...”.

Пра флігель, славойку, храмок, срачык... можна пісаць прыгожа і непрыгожа. Але «непрыгожа» неабавязкова азначае, што прама. Гэтак жа, як Танідзакі: «чысціня таго, што адслоненае, толькі накіроўвае нашу ўвагу на тое, што нябачнае. Лепш, каб такое месца ахінала цьмянае свячэнне, каб мяжа паміж чыстым і нячыстым, заставалася размытай».

Але цяжка казаць пра размыванне «мяжы», слухаючы выступ прэс-сакратара прэзідэнта Беларусі Наталлю Эйсмант. У інтэрв'ю ў мінулы чацвер для тэлебачання АНТ сказала яна, што «дыктатура гэта наш (беларускі) брэнд». Цікава, ці падобнае меркаванне ў апазіцыянераў у Беларусі неаднаразова загнаных у турму ці інакш гоненымі дыктатарскай уладай? Спадарыня прэс-сакратар сказала чыстую праўду. Стэрыльную, як пліткавы туалет у будынку ўрада. Толькі што далей выходзіць з-пад пліткі таксічны грыбок і лішайнік таталітарызму. Пры слове «дыктатура», — тлумачыць яна — «(...) мы бачым парадак, дысцыпліну, абсалютна нармальнае і мірнае жыццё». Такім чынам слова дыктатура «прымае станоўчы колер».

Вельмі стараюся пазбегнуць прамасці, аднак, усё ж, дазволю сабе. Тое, што Наталлі Эйсмант здаецца быць густоўным туалетам, гэта на самой справе запушчаны ўрадавы ўнітаз, каб не было заўважна, выкладзены белай пліткай. Гэта трэба ўбачыць! Але спачатку трэба зняць ружовыя акуляры рэжымнай журналісткі, якая на працягу многіх гадоў службы беларускай дыктатуры высунулася на яе пільную прэс-сакратарку. Не кажучы ўжо пра абмен аблезлай прыбіральні на тэлебачанні на «тлустае», бліскучае хромам і незаслужанай раскошай прыстанішча ва ўрадзе.

«Як непрыгожа, — пісаў Танідзакі ў сваім эсэ, — калі жанчына з найбялейшай нават плоццю публічна пакажа ягадзіцы (...), таксама не ў добрым гусце паказное агольванне інтымных месцаў у поўным бляску». Ну, не да твару, спадарыня прэс-сакратар. Не падыходзіць.

У канцы апошняя цытата з «Гімна для (не толькі) японскага сарціра». «Нашы продкі, якія любіліператварыць у паэзію ўсё вакол іх, ператварылі гэта месца найбольш, здавалася б, нячыстае дома ў месца непараўнальнай элегантнасці, якое, дзякуючы непасрэднай блізкасці ад прыроды пераносіць нас у свет прыемных асацыяцый, звязаных з сузіраннем красы».

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Ці будзе яшчэ каму ездзіць?

У сваіх фельетонах не раз я наракаў, што дзяржаўным уладам і самаўрадам паўднёва-ўсходняй часткі Падляшскага ваяводства да лямпачкі лакальны аўтобусны транспарт. Дастаткова глянуць на блізкі майму сэрцу Гайнаўскі павет, дзе практычна да нуля зведзена камунікацыя паміж малымі населенымі пунктамі. Але справа з'яўляецца балючай для ўсяго арэалу нашага ваяводства.

Ужо добры дзясятак гадоў не дабрацца мне на аўтобусе ў сваю родную вёску і іншыя прыпушчанскія мясцовасці ў Дубіцкай і суседніх гмінах. Зразумела, што дарма ніхто паветра вазіць не хоча, але менавіта дзеля гэтага ёсць дзяржаўная палітыка, каб са свайго бюджэту забяспечыць патрэбы і інтарэсы ў непрыбытковых, але важных у грамадска-сацыяльных сферах пражываючых там людзей. Палітыка ўцёкаў ад адказнасці за вырашэнне менавіта і такога кшталту пытанняў прывяла яшчэ да большай адсталасці паміж усходняй часткай Польшчы, аддзеленай Віслай, а таксама да грамадскага выключэння значнай часткі жыхароў гэтай тэрыторыі па прычыне адсутнасці лакальнага публічнага транспарту. Таму з вялікай надзеяй чакаю рэалізацыі абяцанай зараз урадам фінансавай дапамогі самаўрадам, маючы на мэце зрабіць ізноў даступнай аўтобусную камунікацыю ў гміннай і павятовай прасторы. Калі гэтае абяцанне набярэ рэальных кшталтаў і не акажацца з'явай аднаго сезона, дык можна будзе сказаць, што варта было жыць, каб гэтага дачакацца. Бо самым горшым варыянтам можа быць такі сцэнарый, калі напрыклад наступныя палітычныя пераможцы выпаляць да жывога дрэнныя і добрыя ідэі сваіх папярэднікаў. А такое польскае міжплемяннное змаганне стала адным з прынцыпаў сённяшняга разумення палітыкі. Такі падыход здалёк пахне бальшавіцкім адчуваннем барацьбы класаў і патрэбы знішчэння без ніякага толку паспяховых вынікаў сваіх папярэднікаў.

Тое, што дзесяцігоддзямі ліквідавалася ва ўсім транспартным вымярэнні на ўсходняй сцяне, патрабуе не толькі навуковых даследаванняў, але і яснага адказу, чые палітычныя рашэнні стаялі за нашай сённяшняй камунікацыйнай пустыняй. Маю тут на ўвазе перыяд з 1989 года і пачатку рэформаў Лешка Бальцаровіча, якія бедныя рэгіёны Польшчы прывялі яшчэ да большай беднасці. Шокавая трансфармацыя даволі хутка расцерушыла мясцовы прадукцыйны капітал, а людзей пакінула саміх на мяжы выжывання. Цяпер відавочна, колькі мусіла мінуць гадоў, каб з цяжкасцю пачынаць адбудову чыгуначных шляхоў. Лінія Беласток — Бельск — Гайнаўка — Чаромха — Седльцы неўзабаве можа атрымаць новае дыханне. Шкада толькі, што так позна. Дзеля журналісцкай і гістарычнай памяці хачу нагадаць, што супраць ліквідацыі гэтых шляхоў заўсёды выступала беларускае асяроддзе Беласточчыны. На жаль, нашы рацыянальныя эканамічна-сацыяльныя аргументы і роспачна-эмацыйныя ў нацыянальным плане выступленні былі толькі крыкам адчаю. Ідэя падляшскага раю, аб'яўленая ў выглядзе антычалавечных «Зялёных лёгкіх Польшчы» давяла не толькі да «запалення лёгкіх» карэнных жыхароў, але і да далейшага, паспешлівага адмірання гэтай прасторы і яе абарыгенаў. Зараз усе крыху сарамліва маўчаць пра той пуцяводны праект, які дазваляў кіруючым краінай і ваяводствам увогуле не хваляваціа за лёс таго фрагмента паўднёва-ўсходняй часткі Падляшскага ваяводства.

Едучы нядаўна ў бок Гайнаўкі, далося заўважыць, што на шашы з Нарвы ўжо пачынаюцца дарожныя работы. Таму перад маімі вачыма замроіліся вобразы з дзясяткамі аўтобусаў, што курсуюць поўныя людзей паміж нашымі беларускім вёскамі і мястэчкамі. А не будуць гэта толькі шыкарныя аўтобусы поўныя турыстаў з усёй Польшчы, якія ўрэшце па навенькай дарозе хутчэй змогуць паглядзець у белавежскім запаведніку зуброў і зірнуць праз акно на цэрквы мясцовых абарыгенаў. Заязджаць у беларускі музей у Гайнаўцы наўрад ці будуць мець ахвоту. Няма часу.

**Яўген ВАПА**



# Навасельскі.

## Альбом пра тое, што ёсць і чаго няма

**«Навасельскі — сакральнае мастацтва. Падляшша, Вармія і Мазуры, Люблін»** з'яўляецца публікацыяй, прысвечанай сакральным рэалізацыям Ежы Навасельскага на цяперашняй тэрыторыі Падляшскага, Вармінска-Мазурскага і Люблінскага ваяводстваў. Прамоцыя кнігі адбылася яшчэ ў лютым у Супрасльскай акадэміі, а гасцямі былі аўтарка кнігі — Крысціна Чэрні, фатографы Пётр Савіцкі і Багуслаў Фларыян Скок і прафесар Лявон Тарасэвіч.

— Выданне з'яўляецца чарговым крокам да папулярызацыі і звяртання ўвагі на неабходнасць забеспячэння і догляду прац, якія з'яўляюцца прыкладам мультыкультурнай спадчыны Рэчы Паспалітай. Яна таксама накіравана на садзейнічанне творчасці Ежы Навасельскага — аднаго з самых важных польскіх мастакоў другой паловы XX стагоддзя, — адзначыла К. Чэрні. — Я падымаю тэму сакральнага мастацтва мастака і тэолага, праводзячы як сумленную інтэрпрэтацыю і дакументацыю. Кніга прымае форму такога амбіцыйнага каталога. Знойдзем тут рэпрадукцыі многіх месцаў, да гэтага часу не распрацаваных такім чынам. Публікацыя з'яўляецца другім томам шырока наметанага апрацавання манументальнага мастацтва Ежы Навасельскага. Першы быў створаны тры гады таму і тычыўся Малапольшчы. Другі альбом быў задакументаваны працамі Навасельскага ў трох рэгіёнах: на Падляшшы, на Любліншчыне ды на Варміі і Мазурах. Гэтыя рэгіёны маюць агульную частку гісторыі, і таму я прыдумала, што другі том будзе супольны для гэтых трох рэгіёнаў. Гэты альбом нейкім чынам памінае рэчы, якія ўжо не існуюць, або застаўся ад іх толькі след, нерэалізаваны праект. Мы абавязаны, каб пра тыя сляды старанна дбаць і выратаваць іх ад забыцця.

Альбом змяшчае каля 600 фатаграфій. Аўтарамі падляшскіх фатаграфій з'яўляюцца Пётр Савіцкі і Багуслаў Фларыян Скок. Тут знаходзім як сучасныя каляровыя фатаграфіі, так і дакументы аб неіснуючых інтэр'ерах.

Па словах праф. Лявона Тарасэвіча, гэты альбом з'яўляецца важным выданнем для нашага рэгіёна:

— Добра, што гэтая кніга была створана. Яна — другая кніга пасля Кнігі Вялікага Княства Літоўскага (выдаў яе Асяродак «Пагранічча»). Такая публікацыя павінна стаць візітнай карткай гэтай зямлі.

Сувыдаўцамі альбома з'яўляюцца самаўрад Падляшскага ваяводства, самаўрад Варміі і Мазур, Падляшскі музей у Беластоку і Цэнтр адукацыі і культурных ініцыятыў у Ольштыне.

Продаж альбома вядзе Падляшскі музей у Беластоку. Кнігу можна набыць у Ратушы і Музеі ікон у Супраслі (http://muzeum.bialystok.pl/wydawnictwa/sztuka/).

Мерапрыемства суправаджалася выставай «Навасельскі. Мастак — філасоф — багаслоў». На выставе прадстаўлены праекты і сакральныя эскізы Ежы Навасельскага. Выстава суправаджаецца каталогам, якога выдаўцамі з'яўляюцца Супрасльская акадэмія і Фонд «Ойкономос». Арганізатарамі з'яўляюцца яшчэ Фонд «Віла Сакратас», Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства і Падляшскі музей у Беластоку. Выданне змяшчае тэксты, звязаныя з сімпозіумам «Навасельскі: мастак — філасоф — багаслоў», арганізаваным Супрасльскай акадэміяй у 2018 годзе. Сярод іх ёсць канцэпцыі, якія дачакаліся рэалізацыі, але таксама тыя, для дасягнення якіх ніколі не дайшло, ёсць свабодныя «запіскі ўявы», якія не звязаны з канкрэтнымі месцамі.

— У сакральнай творчасці Навасельскага праяўлялася асобная інтэрпрэтацыя традыцыі, якая з'яўляецца выхадам па-за межы клішэ, старых схем, — адзначыла К. Чэрні. — Перш за ўсё, ягоная творчасць была завершанай у дачыненні да багаслоўя. У канцэпцыях царкоўных інтэр'ераў — як цэркваў, так і касцёлаў — дапоўнілі яе іканаграфія і абсталяванне. У працах Навасельскага іканаграфічны канон ажываў, дзякуючы «інтуіцыям» мастака, мастацкім вырашэнням колеру і кампазіцыям. На выставе прадстаўлены эскізы, гуашы, занатоўкі крышталізуючыхся візіі. Сярод іх з'яўляюцца праекты будаўнічых структур, паліхроміі ў храмах, але таксама іконы і іканастасы. У невялікіх накідах уражвае ўмелае і дэталёвае арацаванне іканаграфіі сакральнага інтэр'еру і іншых сінтэтычных апрацовак прадметаў — свайго роду «нататкі». Некаторыя канцэпцыі часам з'яўляюцца толькі ўвекавечанай на лісточку паперы, апрацоўванай, паўтаральнай думкай. Сярод работ на выставе прадстаўлены праекты, рэалізаваныя, а таксама страчаныя назаўсёды, якія мелі шанц на існаванне, але шанцы на тое былі страчаны. Многія прапановы не былі прыняты, адобраны, таму што яны былі занадта адкрыты, не падпадалі пад банальнае мысленне аб іконе або сакральнай прасторы. Прадстаўленыя ўзоры і эскізы пацвярджаюць выразны характар творчасці Навасельскага на фоне з'яў у сучасным мастацтве. Назначае яе эстэтыка іконы: сход усіх істотных матываў прац Навасельскага — арыгінальны мастацкі выраз з арсеналам фармальных прыёмаў, прывязаных да традыцыі іканапісу, аднак, адзначаецца адкрытасцю да мовы сучаснага мастацтва, але і багаслоўскімі ведамі. Вось гэтую «саўзаемнасць» дысцыплін можна знайсці ў эскізных «запісках» і праектах Навасельскага.



— У ніякім закрытым каноне, правіле нельга было б бяспечна змясціць яго іскру злучэння тэалогіі, філасофіі і жывапісу — такой з'явай з'яўляюцца працы Навасельскага, — сцвярджае Ева Залеўская.

Крысціна Чэрні — аўтарка публікацыі, мастацтвазнаўца і гісторык мастацтва. У 80-х гадах яе тэксты пра мастацтва выдаваліся на старонках непадцэнзурных часопісаў, суправаджалі Рух незалежнай культуры. За творчасць аб мастацтве ўзнагароджана, сярод іншых, узнагародай імя Казімежа Выкі (2012). Кніга «Кажан у храме. Біяграфія Ежы Навасельскага» выйшла ў фінал Літаратурнай узнагароды «Ніке» (2012). У 2017 годзе абараніла доктарскую дысертацыю «Канцэпцыя сакральнага мастацтва Ежы Навасельскага» ў Ягелонскім універсітэце. Плануе выпусціць наступны манументальныя па аб'ёме тамы корпусу манументальнага сакральнага мастацтва Навасельскага.

— Самае галоўнае для мяне: як мастак думае і якія яго пачаткі, — кажа Лявон Тарасэвіч. — У яго працах уся праўда пра мастацтва і веру. Захапляе, што мы можам паказаць яго акварэлі з 1940 года, калі яму было 17 гадоў, ці, напрыклад, нерэалізаваныя эскізы для царквы ў Гайнаўцы або партрэт Аляксандра Грыгаровіча, намаляваны Навасельскім, калі разам прыдумалі гэты праект. Расчульвае лісток з запісанымі чаргова малітвамі... Ежы Навасельскі быў маім майстрам, настаўнікам, таксама ў маёй веры.

Пачынаецца альбом аб Ежы Навасельскім якраз з Гарадка і традыцый заходняга мастацтва ў былой Рэчы Паспалітай. Выконваў ён са Сталёны-Дабжанскім паліхромію ў царкве Прасвятой Багародзіцы ў Гарадку (1952-1955). У 1953 г. напісаў паліхромію могільнікавай царквы св. прарока Ілы ў Беластоку-Дайлідах (1953), у 1955 г. — Галгофу для царквы св. Міколы ў Гродзіску. У 1954-1955 гг. выканаў паліхромію царквы св. Мікалая Цудатворца ў Міхалове; у 1961-1963 гг. — паліхроміі царквы Спаса на Святой Гары Грабарцы; у 1966 г. — іканастас для могільнікавай царквы Усіх Святых парафіі Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы, у 1966-1967 гг. — іканастас для царквы Ушэсця ў Арэшкаве; у 1972-1984 гг. праект Свята-Троіцкай царквы (былая царква святога Мікалая) у Гайнаўцы; іконы для іканастаса ў царкве Ушэсця Гасподняга ў Кленіках (1982 г.); баптыстэрый св. Іаана Хрысціцеля ў Міхайлаўскай царкве ў Бельску-Падляшскім (1984-1985); праект каларыстыкі Міхайлаўскай царквы пасля разбудовы (1983)...

— Навасельскі з часам навязваў сваім праектам штораз большую прастасць і дысцыпліну, — піша К. Чэрні. — Хто ведае, можа, гэтая аскетычная краса гэтага жывапісу аказалася найбольш цяжкай для адабрэння. Тутэйшая рэлігійнасць, пазбаўленая наогул інтэлектуальнага заплечча, затое прывыклая да барочнай, тэатральнай эстэтыкі і пазалоты — з цяжкасцю паддаецца маўчанню. Нават сучасная ікона «заразілася» вірусам натуралізму і набрала румянцаў, круглацсі, святлацення. Навасельскі спасылаўся на ранняхрысціянскія крыніцы і эстэтыку авангарду — нанова адрэальніў ікону, натхніў у яе новы дух. Для царквы і вернікаў гэта аказалася лішне адважным, дзёрзкім, зусім не да адабрэння, таксама ў касцёле. Для мастака, намінальна звязанага з праваслаўем, было гэта крыніцай пакут. Не знаходзіў зразумення ані свядомага, спелага атрымальніка. Навасельскі, экуменічны мастак, функцыянуючы па-над падзеламі, стаў выклікам для перасвяранага свету. Пры канфліктах і прызямных інтарэсах ягоныя творы — безабаронныя і пад пагрозай.

Памяць пра іконы Ежы Навасельскага прыводзяць вучні і выпускнікі Пасляліцэйскай іканаграфічнай студыі ў Бельску-Падляшскім. Школа, якую заснаваў і якой кіруе прыяцель мастка а. Лявонцій Тафілюк, дзейнічае з 1991 года, з'яўляецца адзінай такой навучальнай установай у Польшчы. Сам айцец дырэктар лічыць сябе вучнем Навасельскага, ездзіў да яго на іканапісныя кансультацыі яшчэ ў 1960-я гады. Раннія іконы а. Лявонція застаюцца пад выразным уплывам кракаўскага мастака. Харызматычны святар яшчэ ў васьмідзясятыя гады арганізаваў для моладзі іканапісныя лагеры на Святой Гары Грабарцы і ў Бельску, на якія прыязджаў Ежы Навасельскі. Там таксама Лявон Тарасэвіч падглядваў майстра і слухаў настаўніка.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

# Цікавае мастацтва на вялікай экспазіцыі ў ГДК

Клуб мастака-аматара быў заснаваны ў Гайнаўскім доме культуры старшым інструктарам па справах мастацтва Зінаідай Якуць у 2010 годзе і праз яго прайшлі дзясяткі таленавітых асоб з розных мясцовасцей Гайнаўшчыны. З цягам часу быў ён перайменаваны на Клуб мастака «Старт». Належаць да яго мастакі-аматары, якія прымаюць удзел у мастацкіх занятках у доме культуры і ў пленэрных мерапрыемствах. Яшчэ ў лютым гэтага года была адкрыта вялікая выстава з двухсот дваццаці прац, створаных на працягу апошніх двух гадоў членамі Клуба мастака «Старт». Краявіды з Белавежскай пушчы і яе наваколля, дэталі пушчанскай прыроды і архітэктуры, нацюрморт, партрэты і абстрактныя тэмы на работах, выкананых рознымі тэхнікамі, можна паглядзець на экспазіцыі ў Гайнаўскім доме культуры.



Зінаіда Якуць з партрэтам унучкі

— Падчас Агляду непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі мы заўважылі, што ў нас жыве многа таленавітых асоб, зацікаўленых мастацкай творчасцю. У 2010 годзе мы адгукнуліся на іх просьбы і заснавалі Клуб мастака-аматара, які стаў наведваць асобы, у якіх не было мастацкай адукацыі. Я стала вучыць аматараў галоўным прынцыпам мастацтва і працы рознымі тэхнікамі. Пасля наш клуб быў перайменаваны на Клуб мастака «Старт», — расказала старшы інструктар па справах мастацтва Зінаіда Якуць.

Для экспазіцыі ў Гайнаўскім доме культуры было падрыхтавана дзвесце дваццаць лепшых прац удзельнікаў Клуба мастака «Старт», створаных на працягу апошніх двух гадоў. Выставу адкрылі і ўручылі аўтарам прац дыпломы, буклеты і невялікія падарункі дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч, мастацкі кіраўнік Ядвіга Лях-Кучкін і інструктарка Зінаіда Якуць.

— Я пад вялікім уражаннем ад экспанаваных мастацкіх прац. Прыгожыя краявіды, нацюрморт, мнагатэмныя работы, выкананыя рознымі тэхнікамі можна ўбачыць на выставе. Сведчыць гэта, што ў Гайнаўцы і наваколлі жыве многа здольных асоб, якія ў нашым доме культуры разгарнулі свае ўмеласці, — заявіў дырэктар Расціслаў Кунцэвіч.

Сабраных у доме культуры прывітала мастацкі кіраўнік ГДК Ядвіга Лях-Кучкін, якая звярнула ўвагу на вельмі спелыя працы пастаянных удзельнікаў мастацкіх заняткаў у доме культуры. Інструктарка Зінаіда Якуць на працягу апошніх двух гадоў вучыла выконваць работы рознымі тэхнікамі. Прыклады тэхнік відавочны, між іншым, на алейных карцінах, акварэльных і пастэльных работах, на працах намаляваных у тэхніцы акрылі, рысунках выкананых алоўкам, тушшу і вугалем.

— На працах чацвёртай экспазіцыі Клуба мастака «Старт» мяшаюцца розныя тэмпераменты і стылі малявання. Кожны мастак перш за ўсё стараўся выявіць сябе, свой погляд на кампазіцыю, колер і адносіны з навакольным светам. З усіх прац выпраменьваюць перш за ўсё пазітыўныя эмоцыі і вялікая радасць, — заявіла старшы інструктар па справах мастацтва Зінаіда Якуць.

На выставе змешчана многа прац Малгажаты Невядомскай з Гайнаўкі, выкананых рознымі тэхнікамі. Займаецца яна пад кірункам Зінаіды Якуць і на яе працах відаць мастацкую падрыхтоўку.

— Яшчэ ў дзевяностых гадах мінулага стагоддзя, калі я была вучаніцай сярэдняй школы ў Гайнаўцы, прыйшла я на сустрэчу з вядомым мастаком Лёнікам Тарасэвічам, арганізаваную ў Гайнаўскім белліцэі Клубам беларускіх спраў і настаўнікам Яўгенам Вапам. Маючы намер паступіць на архітэктуру, ездзіла я да спадара Тарасэвіча на кансультацыі па выконванні мастацкіх прац. Атрымала тады важныя парады, але не ўдалося мне паступіць на спецыяльнасць, якая мяне цікавіла. Пазней я вучылася пісаць іконы і стала займацца ў Клубе мастака ў нашым доме культуры і многаму навучылася. Зараз выконваю працы ў розных тэхніках. Апрача малявання краявідаў, дэталяў прыроды і архітэктуры, цікавяць мяне нацюрморт і іншыя тэмы. Пішу іконы, малюю карціны з цэрквамі, зацікавіла мяне графіка, прымаю ўдзел у Аглядзе непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі, — распавяла Малгажата Невядомская, якая сёлета атрымала вылучэнне.

Другое месца ў катэгорыі жывапісу заняў Марк Сапёлка, таксама член Клуба мастака «Старт».

— Я пачаў вучыцца правілам малявання першапачаткова ў Клубе мастака, пазней на занятках Данеля Грамацкага ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Апошнім часам стаў я ездзіць на пленэры, паколькі стала мяне цікавіць маляванне краявідаў і архітэктуры, — сказаў Марк Сапёлка.

Шмат месца на экспазіцыі займаюць працы аўтраства Уршулі Гіншт з Гайнаўкі, якая жыве каля самой Белавежскай пушчы. Свае ўражанні і эмоцыі ад кантакту з пушчанскай прыродай пераліваe яна на свае мастацкія працы, што бачна на пушчанскіх краявідах.

— Я здаўна займаюся ў Клубе мастака «Старт» і многаму навучалася ад інструктаркі Зінаіды Якуць. У нашым клубе пануе сяброўская атмасфера, а паколькі нашы заняткі адкрытыя, прымаюць у іх удзел штораз новыя людзі. Наша інструктарка не толькі знаёміць з новымі тэхнікамі, але дапамагае выпраўляць памылкі і шукаць індывідуальныя шляхі ў мастацтве. Цікавымі нам пленэры і майстар-класы з гасцямі, сярод якіх былі гайнаўскія мастакі Іаанна Кярсноўская і Збігнеў Будзынскі, — сказала Уршуля Гіншт.

У занятках Клуба мастака «Старт» займаюцца асобы, якія жывуць па-за Гайнаўкай, напрыклад, Тамара Кердалевіч з Чаромхі. Удзельнічала яна ў занятках Данеля Грамацкага ў Гайнаўскім белмузеі. Такім самым чынам вучыліся мастацтву Марк Сапёлка, Міраслаў Хіліманюк, а таксама Юлія Пракапюк і Ганна Пазнанская, якія прыязджалі на заняткі з Новаберазова ды Славамір Кулік, які ў ГДК і белмузей дабіраўся з Дубіч-Царкоўных на веласіпедзе.

Міраслаў Хіліманюк апошнім часам стаў адыходзіць ад дэталёвага адлюстравання на сваіх работах навакольнай рэчаіснасці. Перайшоў ён да сімволікі, стаў выконваць абстрактныя работы. Аднак надалей малюе і рысуе натуральныя краявіды з прыродай і старой архітэктурай.

— Я займаюся ў Клубе мастака нядоўга, але ўжо выканала крыху прац і лепшыя з іх знаходзяцца на выставе. Ёсць тут мая абстрактная работа, выкананая мяшанай тэхнікай, краявіды, кветкі і працы з іншымі тэмамі, — заявіла Марыя Хрсцелеўская з Новаберазова, якая прыязджае ў ГДК на заняткі па выконванні габеленаў.

Многіх поспехаў у Аглядзе непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі дабіўся Юры Жукоўскі, асабліва за працы выкананыя тушшу. На жаль, у мінулым годзе памёр. У час адкрыцця выставы сябры ўшанавалі яго памяць хвілінай маўчання.

Аднымі з самых лепшых прац на выставе былі работы гайнаўскай мастачкі Зінаіды Якуць, у якой ёсць прафесійная мастацкая адукацыя. Удзельнікі сустрэчы спыніліся каля партрэтаў з яе ўнучкай. Карыстаючыся нагодай, інструктарка па справах мастацтва і апякунка Клуба мастака «Старт» Зінаіда Якуць запрасіла аматараў мастацтва наведваць яе заняткі ў Гайнаўскім доме культуры. Яны адкрытыя для ахвотных спраўдзіць свае мастацкія здольнасці і навучыцца мастацкім тэхнікам.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



Я пад вялікім уражаннем ад мастацкіх прац на экспазіцыі, — заявіў дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч

## Беларускія запусты

На Падляшшы склалася такая традыцыя, што перад Вялікім постам адзначаюць запусты. З гэтай нагоды ладзяцца многія балі і дыскатэкі з беларускай музыкай. У апошнюю пятніцу карнавалу традыцыйна ў клубе «Гвінт» у Беластоку па вуліцы Звежынецкай каля акадэмікаў палітэхнікі арганізуюцца беларускія запусты. У гэтым годзе выпалі яны 8 сакавіка, у Міжнародны дзень жанчын.

Сёлета мы разам з жонкай і яе сям'ёю пабывалі на запустах. Выпіўшы і пад'еўшы ў хаце, мы прыехалі на таксі а гадзіне 21:30, а ў клубе — пуста. Толькі праз гадзіну зала напоўнілася маладымі людзьмі. У 23:00 на сцэне з' явіўся гурт «Ас» у складзе Славамір Трафімюк — вакал, Юрка Юравец — вакал, клавішы і Адам Снарскі — клавішы. Гурт «Ас» падбадзёрыў публіку да танца песнямі «Мне мама гаварыла», «Кацярына», «Белая чаромушка», «Ты ляці, мая душа», «Залатое калечка», «Валошка синяя» і многімі іншымі. Пры музыцы гурта «Ас» публіка вельмі добра гуляла, таму што «Ас» — самы вядомы беларускі калектыў на Беласточчыне. Публіка не хацела, каб Славамір Трафімюк сыходзіў са сцэны і таму былі бісы. Пасля гурта «Ас» на сцэне выступіў гурт «Сервер» з Гайнаўкі з лідарам і вакалістам Давідам Кротам, які спяваў вядомыя беларускія песні тыпу «Вяне рута», «Палюбіла цыгана», а таксама «Белые розы» і песні з навейшага кампакт-дыска. Пасля гурта «Сервер» выступіў беларускі гурт «Натураль». Агульна ўсе названыя гурты ігралі папулярную на Беласточчыне беларускую музыку поп-фольк, якую можна пачуць у нас на фестывалях «Беларуская песня», на вяселлях, фэстах і дыскатэках. У час перапынку DJ Kriss і DJ Valdi пускалі беларускія, украінскія і рускія песні такіх гуртоў як «Зорка», «Добрые грайкі», «Miraġe», творы Юрыя Шатунова і многіх іншых. Варта адзначыць, што на беларускіх запустах не было англійскай, польскай і ўвогуле замежнай музыкі. Публіку ў большасці складалі студэнты, якія з'ехаліся з цэлага Падляшша, каб вучыцца ў Беластоку. Беларускія запусты ўспомнілі мне студэнцкія гады, калі я хадзіў з сябрамі і сяброўкамі на беларускія дыскатэкі і запусты.

У гэтым годзе праваслаўны Вялікдзень выпадае 28 красавіка, таму, чакаючы Пасху, трэба добра «запусціцца», каб пасля шчыра пасціць праз больш чымсьці сорак дзён.

**Юрка БУЙНЮК**

## Старыя таполі

Старыя ды з вялікімі гнёздамі амялы таполі стаяць пры гравійцы з Гарадзіска ў Плянту ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета. З сухіх дрэў звісаюць і падаюць у равы і на дарогу галіны. Некаторыя дрэвы пераламаў напорысты вецер. Гэтых старых дрэў чамусьці не сякуць.

Але ўсё бывае да пары. У ветраны дзень ці такую ж ноч сухія таполі і іх галіны могуць упасці на маставую дарогі. Перш за ўсё гэта небяспека для пражываючых тут людзей, якія ездзяць і ходзяць па справах у Нараўку, а тут, школа, касцёл, царква, гмінная ўправа, тры бары, амбулаторыя, аптэка, гмінны асяродак культуры, кааператыўны банк, пастарунак паліцыі, пошта, пяць крамаў ды кветкавы магазін. Варта дадаць, што Плянта налічвае 156 чалавек. **(яц)**

## Вестуны вясны

Ужо ў самым пачатку сакавіка гэтага года прыляцелі да нас жураўлі. Першых жураўлёў пачуў я пасля поўдня 4 сакавіка (стаяў коратка сонечны, але цёплы дзень). Яны сваім крыкам напоўнілі ўсё наваколле Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Крыху адпачылі з дарогі ў зарасніках над ракой Нараўкай і паляцелі далей на ўсход — у бок Палесся на Беларусі. Некаторыя затрымаліся на Семяноўскім возеры.

Прыляцелі першыя вестуны вясны і радасна стала на душы. Хопіць тае зімы. Вось ужо і ляшчына зацвіла. **(яц)**



# У дарозе

Быў я ўжо згадваў нядаўна пра непрадказальнасць трапнага прагнозу надвор'я. Вось зноў загарачыла мяне падацца ў вандроўку, гэтым разам на нашу Усходнюю сцяну, у наваколле тае мясцовасці, якая часта відне на дарожных паказальніках з дадаткам „PL-BY", у Баброўнікі. Гадоў таму ўжо шмат курсіравалі туды аўтобусы публічнага транспарту, а зараз тыя курсы перайшлі ў сферу ўспамінаў і трэба рашаць галаваломкі як дабрацца ў той бок. І, падбіраючы маршрут, трэба таксама лічыцца з надвор'ем — ці яно будзе спрыяць, ці падзьме вецер у вочы...

У Баброўнікі цяпер, так прынамсі мне здаецца, найзручней дабірацца цераз Зубры, бо туды з Беластока можна даехаць яшчэ нашым публічным транспартам. А далей, з Зуброў, на сваіх дваіх, каля дзесяці кіламетраў у Баброўнікі. А з Баброўнік яшчэ чарговыя дзесяць у Крушыняны...

І так вось я і стаў прыглядацца таму падарожжу, быццам легендарнай зорцы Венеры ў начное неба. Доўга я хістаўся, але ж трэба было... На пятніцу, 1 сакавіка, надвор'е мела быць ветранае, вецер 18 кіламетраў у гадзіну з паўночна-паўночна-ўсходняга напрамку. Ну, у агульнасці, у твар, але ж і такі вецер здаваўся быць пад сілу...

У Зубры з Беластока, у зімовы перыяд, калі Сонца крочыць недзе па сузор'і Рыб, трэба выбрацца рана. Маршрутка ў Гарадок адпраўляецца ў пяць гадзін раніцы. Гэта выдатная пара, калі пасля ачышчальнай ночы выразна адчуваюцца пахі, у тым выпадку інтэр'ера машыны. Нясе яна ў сваім пахавым дасье ўсю сваю гісторыю, усе пахі, якія пакінулі ў ёй пасажыры з часу ўступлення машыны на тым ка пасажырам службу. Гэта не толькі асабістыя іх пахі, гэта таксама пахі ўсіх араматызуючых сродкаў, тых адэкалонаў, парфумаў, крэмаў і іншых ласьёнаў, якія цяпер прадаюцца ва ўсіх крамах свету і на ўсіх базарах пад глабальнымі брэндамі. І кожны пасажыр нясе ў самаход свае шанэлі, дыёры, сабаціні, бекхамы ці іншыя тайсаны, пакідаючы іх на працяглую памяць...

Ды не толькі глабальныя пахі валочаць людзі за сабою. Вязуць яны і свае асабістыя. Сабраныя са сваіх сцежак-дарожак, з тратуараў, з газончыкаў, агульна — з панадворкаў. І здараюцца такія, што карпатліва збіраюць тыя свае пахі цягам не тыдняў, а месяцаў-гадоў, возячы іх разам з усім сваім дабыткам. Іншыя пасажыры не надта прыхільна ставяцца да такога роду збераженняў, гэтак жа, мабыць, як і да тых збераженняў, у якіх быццам і зусім паху няма. Можа гэта справа зайздрасці... А раней бывала, што людзі вазілі і пахі сваёй гаспадарчай жывёлы, як своеасаблівы гаспадарчы пашпарт, як пахі легендарнага Ноевага каўчэга.

У Беластоку за вокнамі машыны яшчэ ноч, а з ходам маршрута настае досвітак і на небе адбываецца своеасаблівы спектакль. Спярша гарызонт акружаў вянок цёмна-сініх хмар. Ён зліваўся з лесам і здавалася, што аўтобус нясецца глісерам у прынадны ціхай таямнічасцю акіян. З паўднёвага боку над гэтым вянком вісеў даволі яшчэ яркі не серп, але свайго роду аднабакова пахудзелы дыск Месяца.

Магчыма, што слова серп ужо становіцца архаізмам, прынамсі ў нас. Гэта была асноўная прылада, якой пачыналі здабываць хлеб. Быў серп, быў цэп, былі жорны; названыя прылады традыцыйнага сялянскага побыту паволі знікаюць са свядомасці наступаючых чарговых пакаленняў. Дарэчы, так як знікае і наша традыцыйная вёска, якой аджываючае насельніцтва купляе ўжо хлеб прывезены з горада, спечаны з молатай за гарамі, за лясамі мукі... Магчыма, што серп астаецца яшчэ ў настальгічнай свядомасці паклоннікаў дзяржаўнага герба Саюза нерушымых...

А „серп" пабачанага зараз мною Месяца гэта акрэсленне не надта адэкватнае, бо ж традыцыйны серп вузкі, увагнуты, а мой „серп" Месяца быў даволі закруглены. Не надта разбіраюся ў сучаснай сельскагаспадарчай тэхніцы, але магчыма, што сучасныя „нашчадкі" сярпа ў касільных камбайнах таксама нейкія круглейшыя; магчыма, што там прымяняюцца нейкія дыскавыя сярпы...

І вось з тых хмар, пад якія гнаўся ранішні аўтобус, пацягнулася вузкая шчупальца ў напрамку Месяца. І яна, быццам васьміног, схапіла Месяц і пацягнула ўсярэдзіну хмарнага монстра. Занадта цёмна ад гэтага не зрабілася, бо ўжо паднімалася зарыва ад узыходзячага Сонца. А калі пасля нейкага часу той хмарны монстр выкінуў за сабою нядаўнюю здабычу, то ўжо той Месяц не меў ранейшае сілы, быццам хмары высмакталі з яго ранейшую хвацкасць.

Месяц з'яўляецца даволі загадкавай фігурай. Ён то таўсцее, то худзее; пульсуе, напаўняючы сваім жыццём чалавечае ўяўленне. І ў час поўні ягоны дыск бачыцца нейкай карцінай, якая таксама напаўняла ўяўленне чалавека з таго часу, калі ён стаў углядацца ў неба начное... Вікіпедыя: „Księżyc jest obecny w mitologii i astrologii. Według astrologii średniowiecznej ci, którzy ukształtowali się pod wpływem Księżyca są chwiejni i kapryśni, ale też niezależni; mają okrągłe twarze, są niskiego wzrostu i łatwo ulegają grzechowi próżniactwa. Księżyc jako najbliższy Ziemi i najbardziej zmienny z ciał niebieskich, o naturze zimnej, związanej z żywiołem wody miał wywierać największy wpływ na włóczęgów, magików, myśliwych, rybaków, młynarzy, żeglarzy i pływaków. Popularne są przesądy dotyczące wpływu faz Księżyca na psychikę — badania naukowe żadnego tego typu wpływu nie wykazały. Jest uważany za symbol ukrytych stron ludzkiej natury".

Аўтобус дакаціўся да Гарадка. Раней, перад выездам у падарожжа, я напаўняў сваё ўяўленне маршрутамі, па якіх трэба будзе крочыць з Зуброў у Баброўнікі. Тут хвілінка для этымалогіі, бо назвы згаданых вёсак паходзяць ад пасажыраў Ноевага каўчэга — зубра і бабра; а гэтыя словы надта падобныя і карціць заглянуць у іх паходжанне. Як падае этымалагічны слоўнік, складзены Галінай Цыганенка, слова *зубр* выводзіцца ад зуба, з якім меў асацыявацца рог гэтай магутнай жывёлы. А ў сваю чаргу зуб быў тым, што вырастала з ходам часу — гэта мог быць і ўласна зуб, і рог, і ікол... А слова *бобр*, паводле таго ж слоўніка, мела выводзіцца ад назвы колеру — карычневы, буры... Падобную этымалогію слова *bóbr* падае і Аляксандр Брукнер. Той жа аўтар: „*żubr*, mylnie odmazurzone *zubr* i *ząbrz*. (...) W 15. wieku obecnego tygrysa tłumaczono najdowolniej *ząbrzem*, nie mając o tygrysie wyobrażenia (podobnie osła dzikiego *łosiem* ochrzcono, a wielbłąda *orzem*...)": *orz* даўней абазначаў жарабца...

І так я сабе раней думаў, ці ў Баброўнікі лепш будзе падавацца цераз Свіслачаны, ці цераз Нарэйкі, ці цераз Зубкі і Вераб'і, а далей цераз Скрабляркі ў Крушыняны пакідаючы Баброўнікі на пазнейшы час. Вылез я з аўтобуса і ўсе гэтыя мае планы пырснулі як мыльная бурбалка...

Надвор'е і любоў з'яўляюцца адзінымі непрадказальнымі рэчамі, — сцвярджала амерыканская пісьменніца Эліс Хофман. А ў надвор'і вецер адыгрывае вельмі важную ролю. Вецер ветру не роўны. Песіміст наракае на вецер, аптыміст чакае змены, а рэаліст дапасоўвае ветразі.

У апавяданні „Мяцель" Аляксандр Пушкін піша, як пасватаная раней нявеста прыехала ў царкву і, пабачыўшы чакаючага яе жаніха, ускрыкнула: *Не той!* І вецер, які прывітаў мяне ў Гарадку, таксама не быў тым, якога я чакаў. Бо вятры, як і людзі — розныя. Як у Юльяна Тувіма: „Jeden wiatr — w polu wiał, Drugi wiatr — w sadzie grał: Cichuteńko, leciuteńko, Liście pieścił i szeleścił, Mdlał...".

Харукі Муракамі заўважыў, што вецер ведае нас ад галавы да пят і клапоціцца пра нас. Гэта аб'яўляецца ў некаторыя моманты і нам прыходзіцца паслухмяна ветру падпарадкавацца.

Спадзяваўся я, што вецер будзе адносна цёплы, дружалюбны. А тут на мяне накінулася раншняя сіберная вятруга. І як драпежнік стала прабірацца да маіх тканак. Паволі мае зубы сталі ляскатаць як залязняк па бруку. Некалькігадзіннае прабыванне ў такім антуражы магло б і зусім прыпыніць тое ляскатанне; трэба было прымірыцца з ветрам і заключыць акт безагаворачнай капітуляцыі.

Каля дваццаці хвілін давялося мне чакаць за сценкай аўтобуснай паветкі, пакуль пад'ехала тая ж самая маршрутка, на якой я прыехаў, а якая цяпер паслужыла мне супрацьзябавым сховішчам. Супраць ветру не падзьмеш...

Мне пашанцавала, меў куды і чым вярнуцца. А калі ў каго няма такіх прывілеяў?..

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

## Чаромхаўская статыстыка

Чаромхаўская гміна займае плошчу ў 9673 квадратных кіламетраў. 90 працэнтаў агульнай плошчы займаюць лясы і ўгоддзі. Паводле стану на 31 снежня 2018 года ў дванаццаці салэцтвах на пастаяннае жыхарства прапісана 3200 жыхароў. У Беразышчах жыве 32 чалавекі, у Баброўцы — 52, Чаромсе-Станцыі — 2311, вёсцы Чаромсе — 266, Янцэвічах — 12, Кузаве — 162, Апацы-Вялікай — 20, Пагулянцы — 16, Полаўцах — 17, Ставішчах — 176, Вульцы-Тэрахоўскай — 87 і ў Зубачах — 49. У гміне пражывае 281 мужчына і 324 жанчын ва ўзросце 60-75 гадоў. Значную частку насельніцтва складаюць сеніёры, якім больш за 75 гадоў: 120 мужчын і 287 жанчын.

А ў мінулым пасёлак квітнеў як чыгуначны цэнтр. Сведчаць аб гэтым статыстычныя даныя. У пачатках 2003 года, напрыклад, у гміне пражывала 3954 чалавек. У гэтым жа годзе нарадзілася 21 дзетка, павянчалася 28 шлюбных пар ды 50 чалавек памерлі. Год пазней (2004) нарадзілася — 32 дзетак, 28 пар пабралася шлюбам і памерлі 53 асобы. У наступным 2005 годзе гэтыя паказчыкі выглядалі наступным чынам: 30, 31, 58. У 2006 годзе лік жыхароў паменшыўся да ліку 3821 чалавек, пры тым зарэгістравана 29 народзін, 36 шлюбных пар і 56 пахаванняў. Паводле стану на 29 снежня 2008 года ў Чаромхаўскай гміне пражывала 3718 чалавек. У час пазнейшага дэмаграфічнага рэгрэсу насельніцтва наглядаюцца адмоўныя паказчыкі. У 2015 годзе нарадзілася 19 дзетак, зарэгістравана 21 шлюбную пару і 53 чалавекі памерлі. У мінулым годзе лік гэты адпаведна павялічыўся да — 23 народзін, 27 сужонстваў і 59 нябожчыкаў. Чаромхаўская статыстыка гаворыць сама за сябе — старэем, даражэнькія. Ох і старэем...

**Уладзімір СІДАРУК**

## Паэты чыталі вершы жанчынам



З нагоды Міжнароднага дня жанчын 10 сакавіка гэтага года ў прыгожай аднаўленай прасторнай святліцы ў Тарнопалі Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ладзілі сустрэчу мясцовых жанчын з беларускімі паэтамі з Новага Ляўкова і Лешукоў. У Тарнопаль прыехалі Канстанцін Целушэцкі, Янка Целушэцкі і Тадэвуш Кунцэвіч.

Мерапрыемства адкрылі і павіншавалі жанчын са святам мясцовы гмінны радны Станіслаў Садоўскі і новы солтыс Юрый Бельскі. Яны былі галоўнымі арганізатарамі ўрачыстасці. Ім дапамаглі Кася Бельская, жонка солтыса і Івона Езёрак, якая паспяхова вядзе прыгожы кветкавы магазін у Нараўцы па вуліцы Гайнаўскай. Усе жанчыны атрымалі ад арганізатараў белыя ружы. Быў багаты салодкі пачастунак, белае і чырвонае віно ды кава і гарбата. Панавала мілая, цёплая і сардэчная атмасфера.

Вершы спадабаліся прысутным. Жанчыны любяць паэзію. Мігам праляцелі звыш дзве гадзіны сустрэчы жанчын і паэтаў. Усе яе ўдзельнікі шчыра дзякуюць арганізатарам за запрашэнне і цёплы прыём.

Тэкст і фота
**Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі








## Свята жанчын у Залуках

У пятніцу, 8 сакавіка, мы адзначылі ў нашай школе свята жанчын. Мы атрымалі ад хлопцаў кветкі, а некаторыя дзяўчыны нават цэлыя букеты цюльпанаў. Кожны клас падрыхтаваў выступленне. Хлопцы зрабілі адмысловую прэзентацыю пра самыя вядомыя жанчыны ў гісторыі. Але і тут была патрэбна дапамога каляжанак. Янку, які адыгрываў ролю Боскай Барбары, трэба было зрабіць макіяж. Бартак патрабаваў дапамогі з вэлюмам, бо іграў маладую нявестку. Шымон забываўся сваёй ролі і патрабаваў падказкі... Пры тым усім было відаць, што нашых калег нервуе факт, што ў нашай школе так асабліва адзначаецца свята прыгожых жанчын, а не іх. Магчыма таму пасля акадэміі ўсе ўцяклі, а прыбіранне пакінулі нам — дзяўчынам. Ну, нічога, нам засталіся святочны настрой і прыгожыя кветкі!

**Юлька і Майка**
з Журналісцкага школьнага кружка ў Залуках

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

## Курка і гаспадар

Злавіў гаспадар курку, а яна ў крык! Сакоча, б'е крыльцамі, дзяўбе дзе папала гаспадара. А жывёлы, што пасвіліся на панадворку, сталі яе папракаць:

— Што з табой? Навошта крычыш на ўвесь свет? Ці нешта табе пагражае?

А курка на гэта:

— Нас, курэй, рэдка калі ловяць з добрым намерам. Адзін зловіць і адпусціць, але не заўсёды такое бывае. Другі схопіць, скруціць галаву, абдзярэ з пер'я, сасмажыць на ражне і з'есць. Мы ніколі не ведаем, што будзе, як скончыцца сустрэча з чалавекам, хай ён і гаспадар. Ды заўсёды сакочам і крычым, каб іншыя пачулі пра нашу пагрозу і небяспеку. Ніхто не жадае загінуць без весткі.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Рыгор БАРАДУЛІН

## Дваццаць пятага сакавіка

Дваццаць пятага сакавіка —
Годны дзень
Беларускай дзяржавы.
Веснаплынных вятроў талака
Пыл з кароны атрэсла іржавы.
Шматавалі нас досыць арлы
І з адной, і з дзвюма галавамі.
Мы не з нейкай
бязроднай імглы,
Нас вякі як сваіх
Гадавалі.
Мы — ратаі святла,
Крывічы,
Верхачы неўміручай Пагоні.
Маладзік сакалом на плячы,
Гартны меч у цвярдое далоні.
Лучыць нашыя мары рака
Бел-чырвона-белага сцяга.
Дваццаць пятага сакавіка —
Наша свята,
Пароль
І прысяга!

## УВАГА КОНКУРС! № 11-19

**Два браты ўцякаюць,**
**а два даганяюць,**
**але ж ні пярэднія не могуць**
**уцячы, ні заднія дагнаць.**
**(К.....)**

**Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 31 сакавіка 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 7: чатыры.**

**Узнагароды, наклейкі, выйгралі Вікторыя Якімюк з Нарвы, Алекс Зыскоўскі, Наталля Гайдук з ПШ № 1 у Гайнаўцы, Дам'ян Манаховіч з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім, Анеля Вішынская з Шудзялава, Габрыель Пах, Вікторыя Залеўская, Лукаш Дзюбанос з Орлі, Міхал Станкевіч, Ян Радэль з Залук. Віншуем!**

# Дыктоўка
## ў памяць айца Гаўрыіла!

Пераможца Міколка Абрамюк шмат разоў быў з бацькамі ў скіце айца Гаўрыіла.

— Для мяне гэта быў супербацюшка, — усміхаецца Міколка. — Ён заўсёды нас частаваў гарбатай, гаварыў нешта вясёлае. У яго быў добры падыход да дзяцей і да дарослых. Калі я пісаў дыктоўку, зноў прыгадаў царкву, рэчку, пчолак. Я сумаваў, што не пабачу ўжо там айца Гаўрыіла...

Міколка Абрамюк — вучань Непублічнай школы святых Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Але са скітам у яго асаблівая сувязь. Яго тата родам з недалёкай Нарвы, там жывуць бабуля з дзядулем. Гэта яны першыя паказалі яму пустэльню, дзе жыў манах.

Малодшыя ўдзельнікі беларускай дыктоўкі ў Беластоку пісалі фельетон Веранікі Кардзюкевіч, які ўзнік у час XXX Сустрэч «Зоркі». Разам з аўтаркай яны «вандравалі» па драўлянай кладцы ў Кудак. Там чакала іх незабыўная сустрэча з гаспадаром вострава. Вераніка прызнаецца, што будзе сумаваць па пустэльні. Яна абяцае вяртацца ў родны, чароўны куточак. Фельетон перапоўнены радасцю адкрыцця!

Тут трэба дадаць, што калі Вераніка Кардзюкевіч пісала свой фельетон, так як і Міколка Абрамюк, была вучаніцай праваслаўнай школы.

— У такі спосаб мы хацелі ўспомніць асобу айца Гаўрыіла і прыгадаць творчыя дасягненні нашых вучняў, — кажа настаўніца Іаанна Марко.

Час назваць усіх лаўрэатаў дыктоўкі з IV-VI класаў :

**I месца** — Мікола Абрамюк (Праваслаўная школа імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку),

**II месца** — Анна Іванюк (Праваслаўная школа імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку),

**III месца** — Марыня Місяюк (Праваслаўная школа імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку).

**Вылучэнні:** Габрыеля Крупіч (Праваслаўная школа імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку), Марта Васькоўская (Праваслаўная школа імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку), Аляксандра Кузьма (Праваслаўная школа імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку).

Зразумела, старэйшая група ўдзельнікаў таксама пісала пра айца Гаўрыіла. Тут тэкстам паслужыў фельетон Яўгена Вапы пра заўчасную смерць айца Гаўрыіла. Удзельнікі не мелі лёгкай задачы, паколькі змест фельетона насычаны філасофскімі роздумамі пра дабрыню і людскую памяць.

Як не цікава, тут таксама перамог «зямляк» айца Гаўрыіла — Уладзік Кутузаў са школы ў Нарве. А вось прозвішчы ўсіх пераможцаў і вылучаных вучняў са старэйшай групы:





**Іаанна Марко і Марцін Абійскі з Міколам Абрамюком**

**I месца** — Уладзіслаў Кутузаў (Школа ў Нарве),

**II месца** — Юстына Бакуменка (Праваслаўная школа імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку),

**II месца** — Іван Карсунскі (Праваслаўная школа імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку),

**III месца** — Вікторыя Пякарская (Гімназія № 7 у Беластоку),

**III месца** — Алеся Буткевіч (Праваслаўная школа імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку). Вылучэнні атрымалі: Марк Кутузаў (Нарва) і Аляксандра Паўлючук (Праваслаўная школа імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку).

Пераможцы і ўсе лаўрэаты атрымалі беларускія граматы і кніжныя ўзнагароды.

«Ніва», якая ад пачатку трымае патранат над мерапрыемствам, традыцыйна ўжо назначыла гадавую падпіску для Міколы Абрамюка і Уладзіка Кутузава. Малайцы Вы!

Фота і тэкст
**Ганна Кандрацюк**

## Польска-беларуская крыжаванка № 11-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 7-2019:**

Каб, маг, лес, вы, Агата, крушына, ах, агрэст, брат, яр, крот, ачос, мэр, раб, жрэц. Парк, keліх, Ас, бомж, картэр, чарга, гарт, аташэ, ар, тысяча, вантробы, ды.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі **Мая Куптэль** з Нараўкі, **Аляксандра Аніськевіч** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Марыя Кардзюкевіч** з Бельска-Падляшскага, **Каміль Мартонік, Мішка Станкевіч** з Залук, **Эмілька Калодка** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія, **Кінга Бах** з Шудзялава, **Юля Дарпенская** з Нарвы, **Пётр Вілюк** з Арэшкава, **Магдалена Косцік** з Орлі. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Husar | | Księżyc | Peruka | Podziękowanie | | Roślina | | Krok |
| | | | | Wiedza | | | | | |
| Sąsiad | | Ewa / W nocy | | | | Bierz | | Ty / Talon | |
| Poniedziałek | | | | | | Sto | | | |
| | | | | | | | | | |
| Racja | | | | | | Ił | | | Bierz |
| Grzywka | | | | Kanon | | | | | |
| | | | | | | Ana | | | |

# Вольга Якута
## — няўжо забытая беларуская настаўніца?

❖Лена ГЛАГОЎСКАЯ

З вялікім здзіўленнем прачытала я тэкст Сяргея Чыгрына «Прыгадаем беларускую настаўніцу Вольгу Якуцянку» («Ніва», № 8, 24.02.2019 г., с. 10-11). Не, не таму здзіўлена, што аўтар раптам знайшоў звестку пра Вольгу Якуту (Якуцянку) у «Незалежнай Беларусі» за 1919 год. Калі нехта будзе пераглядаць гэтую газету, знойдзе там больш звестак пра Беласточчыну, дарэчы так як і ў іншых беларускіх газетах таго часу. Гэта, на жаль, яшчэ не «заходнебеларускія» газеты, бо ў 1919 г. яшчэ не было ясна, што дзе будзе належаць, а беларускія землі былі пад польскай уладай, калі тая ў красавіку заняла Вільню і ўвяла Цывільнае праўленне ўсходніх зямель (Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich). Назва «Заходняя Беларусь» пачала ўжывацца ў канцы 1920 г., калі стала вядома, што беларускія землі будуць падзелены і іх заходняя частка прыпадзе Польшчы, што і канчаткова сталася пасля Рыжскага трактата ў 1921 г.

Зараз можна толькі шкадаваць, што беларускіх газет (апрача «Нашай Нівы»), якія выдаваліся ў Вільні, не пераглядалі ў свой час даўнія журналісты «Нівы», бо шмат чаго даведаліся б і змаглі б захаваць для наступных пакаленняў. І мы б сёння былі разумнейшыя і больш ведалі пра сваю гісторыю і пра Вольгу Якуту таксама. Таму і прыходзіцца са спазненнем адкрываць нам нашу беларускую «Амэрыку».

Але Сяргей Чыгрын не адкрыў на гэты раз «Амэрыкі», пішучы пра Вольгу Якуцянку. Праўда, шмат гадоў ніхто яе не прыгадваў, ніхто пра яе нічога не ведаў. Упершыню я згадала пра яе, пішучы ў 1997 г. артыкул пра беларусаў Сакольшчыны ў штомесячніку «Czasopis» (№ 12, с. 17-20). Шмат разоў на розных сустрэчах, у тым ліку ў Крынках, згадвала я гэтую настаўніцу, але ніхто, уключна з Сакратам Яновічам, не мог нічога пра яе сказаць, як і пра шмат іншых тадышніх настаўнікаў з Беласточчыны: Насцю Кішкель, Аляксандра Грыкоўскага, Веру Мультан, Серафіму Кішко (пазней Дзекуць-Малей), Марыю Зіневіч, Рамана Зарэцкага, Сапрона Кавэрду і т.д. Зараз пра іх крыху вядома.

Раптам абсалютна нечакана ўвосень 2014 г. Вольга Якута аб'явілася сама — праз унука яе сястры Юрыя Шаха з Саколкі. Паехала я ў Саколку, дзе пачула вельмі кранальныя сямейныя гісторыі, годныя раманаў. Але напісала перш за ўсё артыкул пра Вольгу Якуту, апублікаваны ў «Czasopisie» (2015, № 1, с. 24-26). На вокладцы змешчаны яе здымак на фоне пасведчання аб заканчэнні настаўніцкіх курсаў у Свіслачы, а ўсярэдзіне таксама ўкладзены яе здымкі і дакументы. Здавалася, што належным чынам рэдакцыя прыгадала забытую беларускую настаўніцу.

Але, аказваецца, Сяргей Чыгрын не чытаў гэтага артыкула! Не бачыў здымкаў! Гэта мяне тым больш здзіўляе, што ў тым жа нумары «Czasopisa» пару старонак далей (с. 38-41) надрукаваны артыкул С. Чыгрына «Міжваенныя выданні Вацлава Ластоўскага». Відаць і ў «Ніве» не чыталі майго артыкула, напісанага чатыры гады таму назад, калі прапусцілі недарэчнасці, напісаныя С. Чыгрыным. Хіба, што для рэдакцыі С. Чыгрын больш верагодны, чым я. Аднак у «ніўскім» артыкуле аказалася так шмат недарэчнасцей, што вырашыла я іх крыху выправіць, хаця б дзеля памяці пра былую беларускую настаўніцу.

Па-першае, 100 гадоў таму назад Вольга Якута яшчэ жыла! Як сам Сяргей Чыгрын піша: памерла яна толькі 1 кастрычніка 1919 г. Як тады ў канцы лютага 2019 г. можна напісаць: «Сто гадоў таму не стала беларускай настаўніцы з Сакольшчыны Вольгі Якуцянкі?» Як аказалася паводле парафіяльных кніг, памерла яна 19 верасня 1919 г., што праверыў у Саколцы Юры Шах. Чаму напісалі ў беларускіх газетах (не толькі ў «Незалежнай Беларусі»,





Пасведчанне аб заканчэнні беларускіх настаўніцкіх курсаў у Свіслачы



Bestimmungen.

Prawidły.

Deutsche Verwaltung im Gebiet des Oberbefehlshabers Ost.

Verwaltungsgebiet Bialystok

1. Kreis: Sokolka
2. Paß Nr. 6910
3. Wohnort:
4. Vor- u. Zuname: Olga Jakuta
5. Geburtsdatum:
bzw. ungefähres Alter: 14 Jahre
6. Geburtsort: Bialystok
Gemeinde:
Kreis:
Gouvernement:

Пашпарт



7. Beruf:
8. Religion:

Personalbeschreibung.

Prymiety naoly.



Беларускі гімн запісаны Вольгай Якутай

але і ў «Крыніцы» і «Беларускім жыцці» (№ 17, 13.10.1919 г., с. 4-5) 1 кастрычніка? Магчыма такая вестка дайшла ў Вільню, або магчыма, што мэтанакіравана ў царкоўных дакументах была ўпісана ранейшая дата смерці ў сувязі з накіраваным 20 верасня пісьмом, падпісаным Вольгай Якутай і Марыяй Зіневіч у абарону беларускага школьніцтва на Беласточчыне. Хаця ў пасмяротных артыкулах пішацца, што было ёй толькі 18 гадоў, у сапраўднасці было ёй 22. Нарадзілася яна 27 ліпеня 1897 г. у Беластоку і была ахрышчана ў саборы, у якім 17 ліпеня 1893 г. вянчаўся яе бацька Антон Якута, беручы за жонку Марыю Рапнеўскую з Альмонтаў. Нарадзіўся ён 4 лістапада 1861 г. у Лінове, побач Пружанаў. Быў ён садоўнікам і працаваў па розных маёнтках і дварах, між іншым у Слойцы і ў Варонім Лузе. У Марыі і Антона Якутаў было дзясяцёра дзяцей. 22 ліпеня 1894 г. нарадзілася Марыя — бабуля Юрыя Шаха. 3 лістапада 1895 г. паявіўся Язэп, а праз два гады Вольга. Усе яны нарадзіліся ў Беластоку, дзе таксама былі ахрышчаны. 2 сакавіка 1901 г. нарадзілася Анна, 30 жніўня 1903 г. блізняты: Марта і Аляк-

працяг ☞ 10

Юрка БУЙНЮК

# Толік і Колік — матрыманіяльнае бюро



Сярод лясоў і бароў Гарадоччыны ўзвіваецца сіненькі дымок. Гэта Толік і Колік вараць найлепшую самагонку ў свеце. Вядома, ідзе вясна, а запатрабаванне ў нашым падляшскім народзе вельмі вялікае. Неўзабаве Вялікдзень, а добрую самагонку можна купіць менавіта толькі ў іх. Аднак сёння Колік у вельмі сумным настроі. Неяк з самой раніцы яму ўсё не атрымліваецца. Толік заўважыў, што Колік нават плача. Толік добра памятае, што Колік ніколі не плакаў. А тут!

— Ну чаго ж ты расчуліўся? Дрэнна табе са мной самагонку гнаць?

— Справа не ў самагонцы. Ай, Толік, вясна неўзабаве, а ў мяне бабы няма... — Колік шчыра заплакаў.

— Ну, не плач і будзь мужчынам. Калі хочаш, дык я табе бабу знайду...

— У цябе, Толік, жонка, сын, дачка, а я што па сабе астаўлю?

— Ты не бойся! Для многіх пакаленняў беларусаў аставіш па сабе рэцэпт сакавітай самагонкі...

цябе ні слыху, ні віду! Добра, што ўцякла ў горад, бо тут людзі мяне з'елі б...

— Галя?..

— Я табе дам Галя! Хто ў 1979 годзе прыгожа іграў на гармоніку і спяваў прыгожым тэнарам «Нясе Галя воду»?! А я, дурная, у гэтую марозную ноч 1979 года, у зіму стагоддзя аддала на век сваё дзявоцтва! Казаў: «холадна мне», дык прыгарнула да сябе. Ты, халера, знішчыў маё дзявочае жыццё. Знішчыў жыццё нашым тром сынам, якія да гэтай пары не ведаюць, хто іх бацька! Я так не адпушчу! Бабы, за мной!

І рынуў натоўп на нашых мужчын. Многія жанчыны паскідалі боты на высокіх абцасах і беглі басанож. Напэўна людзі ў Гарадку і ваколіцах мелі пра што доўга гаварыць, калі пабачылі як Толік, Колік і Валодзік перлі з усіх сіл цераз лес, цераз гарадоцкія вуліцы, аж натоўп згубілі ў «Карчме ў Яўхіма». Яўхім схаваў іх у задняй частцы карчмы, дзе нашы сябры праседзелі цэлы тыдзень. Яўхім прыносіў нашым траім героям пад запечак ежу і, вядома, самагонку. Месяц яны ўсе баяліся паявіцца ў лесе.

— Ай, я хацеў бы бабу мець. Хату прыбрала б, боршч зварыла б, фуфайку памыла б.

— Ты нават не ведаеш, як баба можа цябе знерваваць, залезці табе пад скуру. Нават не ведаеш, чаму я сюды ўцёк ад сваёй жонкі ў гарадоцкі лес. Я тут шчаслівы!

— А мне неяк нудна самому. Бачыш, была зіма, а мне было холадна. А так адну цыцку на адно вуха, другую — на другое і грэе як печка.

— Дык ты фуфайку маеш і вушанку.

— Гэта не тое самае, — і Колік зноў шчыра расплакаўся. І так плакаў бы, калі б не Толікавы вочы, якія разгарэліся ад шчасця быццам ліхтары вечаровай парой у беластоцкім парку.

— Чакай, у мяне ёсць ідэя! — Толік у той момант паднёс палец угару. — Сарганізуем табе матрыманіяльнае бюро!

— Бюро матры... што?.

— Ну дамо аб'яву ва ўсе газеты на Беласточчыне, а нават у варшаўскія выданні, радыё і тэлебачанне і будзем выбіраць табе жонку! Не агледзішся, калі ў гэтым лесе будзе больш баб чымсьці дрэў!

— А можна так? — задумаўся Колік.

— Можна ўсё, Колік. Вясна ідзе і ты будзеш мець бабу ціп-топ!

І так Толік падаў у беластоцкую газету аб'яву: «Матрыманіяльнае бюро „Гай зялёны" вядзе кастынг на жонку дня бізнесмена ў сярэднім веку, прадпрымальніка, дырэктара манапольнага завода. Фанат добрай забавы, ідэальны матэрыял на мужа...».

Прайшло пару дзён, як у гарадоцкі лес сталі з'язджацца натоўпы аўтамашын. Адны думалі, што едуць яны на «Басовішча», але зарана, гэта ж пачатак траўня. Другія думалі, што на канцэрт «Прымакоў» у Барыку пруцца фанаты з усяго свету. У аўтамашынах былі разнавідныя жанчыны ўсіх узростаў вельмі шыкарна апранутыя. Бландзінкі, брунеткі, рыжыя, фарбаваныя, з доўгімі і кароткімі валасамі... Людзі з навакольных вёсак думалі, што бабы ў Польшчы ўпадабалі слаўную на ўвесь свет гарадоцкую самагонку. А тут не! Быццам дзіўная пілігрымка сталых жанчын і маладых дзяўчат ішла праз лес у напрамку Толіка і Коліка. Пасярэдзіне паляны стаяў столік, засланы зялёным сукном, а за ім сядзелі два мужчыны, якім было, далікатна кажучы, гадоў пад шэсцьдзясят. Апрануты яны былі ў элегантныя касцюмы, новыя «гумафільцы» так наваксаваныя дзёгцем, што блішчалі як яйца ў сабакі. На галовах у іх былі новыя берэты. Стаў натоўп жанчын перад сталом, якім у якасці кіраўніка засядаў Валодзік, сябра Толіка і Коліка. Дзякуючы яму жанчыны выстраілі даўжэзную чаргу быццам за туалетнай паперай пры камуне. Большасць жанчын змахвала на гарадскіх красунь, якім не чужы манікюр і педыкюр, салярый і фітнес, у элегантных вопратках і прычосках. Паміж імі было многа нашых падляшскіх мадэлей, былых міс Беластока, Гайнаўкі і Бельска. І менавіта гэта яны горда глядзелі на трох састарэлых дзядзькоў. Аднак усе з зацікаўленасцю глядзелі на двух самагоншчыкаў, апранутых сціпла, але элегантна, у стылі васьмідзясятых гадоў мінулага стагоддзя. Мужчыны трымалі фасон, хаця ў натоўпе гарадскіх красунь адчувалі сябе няёмка, асабліва Колік, кавалер «на выданні».

— Паважаныя жанчыны, калі ласка, будзьце цішэй. Ці ўсе вы адгукнуліся на маю матрыманіяльную аб'яву? — прамовіў Толік.

— Так, так, так, так, — хорам прагучаў натоўп, а рэха панеслася далёка па-над лесам.

— Ну дык пачынаем, — і кіўнуў Коліку, каб той устаў. — Прадстаўляю вам нашага героя сённяшняга дня, нашага кавалера, якому можаце задаваць пытанні.

Колік стаў скромна, пакланіўся і ціха сказаў: «Добры дзень».

Паміж жанчынамі пачаліся дзіўныя хіхіканні, шаптанні, а нават спрэчкі.

Перад натоўп выйшла жанчына з доўгімі чорнымі валасамі, у элегантнай сукенцы, якая нагадвала тыгравую шкуру, і ў доўгіх па калені чорных скураных ботах.

— Што гэта за цырк?! Я сюды з Бельгіі прыехала знайсці маладога багатага хлопца, а тут пенсіянер, прытым алкаголік?!

— А кароў даіць умееце? — смела запытаў Валодзік.

— Ці вы з глузду з'ехалі? Хто ж кароў доіць у Беластоку?! Можа свінчо на балконе гадуе?

— Можа яшчэ свінням жэрці даваць! Мы тут самі прыехалі, каб пазнаць мужчыну і даіць яго з грошай! — кінула бландзінка ў элегантнай сіняй сукенцы.

— Ці вы ўсе гарадскія?

— А як жа! — гэтым разам перад шэраг выйшла маладая дзяўчына з доўгімі валасамі і такімі ж нагамі, у міні-спадніцы, якая падкрэслівала яе зграбныя ногі ў ботах на высокім абцасе. — Гэта мае быць ваш бізнесмен?! Прадпрымальнік?! Дзе тут сярод лесу віла з басейнам?! Вы ж пісалі пра гэта ў аб'яве.

— Ну, прадпрыемства ў нас супольнае — суполка з абмежаванай адказнасцю. Самагонку гонім і прадаем. Нашы прадукты нават у Закапанэ прадаюць. Нашу самагонку п'юць важныя асобы.

— Гэта здзек над маім жыццём! Учора я атрымала карону Міс. Са мною музычныя калектывы здымаюць відэакліпы, якія глядзяць мільёны людзей у інтэрнэце. Думала, выйду замуж за славутага бізнесмена, музыканта ці футбаліста сусветнай вядомасці, а тут такі цырк! — і тут маладзенькая дзяўчына гадоў васямнаццаці, з залатой каронай на галаве, у доўгай белай сукенцы, з перакінутай цераз плячо стужкай з надпісам «Міс Падляшскай зямлі 2019» і ў боціках на высокіх абцасах горка расплакалася.

Гэтым разам да стала кінулася жанчына гадоў пяцідзесяці, якая прыгожай была, відаць, гадоў трыццаць таму. Была апранута звычайна. Праціснулася цераз натоўп. На ёй твары жыццё адціснула моцны след цярпення і нейкага глыбокага расчаравання цяжкім жыццём:

— Слухайце бабы мяне. Мы тут, відаць, не па грошы прыехалі, але каб бараніць свой жаночы гонар! Гэта ж пануры жарт! Колік, ты сволач, думаў, што схаваешся перада мною ў лесе?! Зрабіў мне во трайняты і ўцёк. Трох сыноў, халера, маеш, а ты тут у лесе спакойна самагонку гоніш, а я тымі рукамі цяжка працавала, каб выхаваць трое нашых хлопцаў! А я столькі гадоў сама іх гадавала, а пра

— Ну вось, сябрук, якой ты мне кашы наварыў! — выразна сказаў Колік да Толіка.

— А адкуль я ведаў, што ты такі Казанова? Галі Ціханюк, прыгажуні на ўсе Ціханюкі, змайстраваў трайняты і ўцёк у лес. Я ўжо ведаю, чаму людзі гаварылі, што ў Амерыку ўцякла, а яна ўвесь час жыла ў Беластоку! Сапраўды, няма чым ганарыцца. А бабы, разумееш, дружны народ — адна за ўсе, усе за адну і тут няма чаму здзіўляцца!

— А адкуль я мог ведаць... — шчыра прызнаўся Колік.

— Ты можа нават усё жыццё думаў, што з бабай гэтага не рабіў?

— Гэта было па самагонцы. Была зіма стагоддзя 1979 года.

— Ясная справа. Ну дык ты падумай, што прыйдзецца табе з трыма сынамі маёнткам дзяліцца.

— Гэта ўжо.не твая справа! — хітра ўсміхнуўся Колік. У галаве Коліка мроілася пабудова фабрыкі самагонкі, якую назаве «Колік і сыны. Суполка з а.а.». Але ж Колік усё маўчаў і маўчаў. Зашмат уражанняў за адзін дзень. Што там на адзін дзень — на ўсё жыццё! Быў у шоку, што стрэліў раз, а атрымалася — раз, два, тры хлопцы. Якія там хлопцы — ім зараз сорак гадоў мінае! А мо яны пажаніліся і маюць унукаў? Добра было б пазнаёміцца з неспадзяванай сям'ёй!

Відаць, Колік хаваў яшчэ больш мужчынска-жаночых сакрэтаў перад сваім сябруком, але ён не любіў хваліцца.

Пра здарэнне ў гарадоцкім лесе доўга гаварылі людзі. Мо таму, што сярод кандыдатак на жонак былі журналісткі беластоцкіх масмедыяў, а нават агульнапольскага радыё і тэлебачання. Камеры запісалі, як нашы самагоншчыкі ўцякалі ад Галі. Аднак перад карчмой стаяла густая імгла. Пайшла чутка, што іншапланецяне прызямліліся перад «Карчмой у Яўхіма» і гэта, відаць, напужала баб. Бабы думалі, што Толік, Колік і Валодзік паляцелі ў космас і таму перасталі іх шукаць. «А Толік не лепшы. Таксама ад бабы і дзяцей уцёк у лес!» — падумаў бадзёра Колік і гэтая думка бараніла яго перад ягоным жыццём.

8 ☞ працяг **Вольга ЯКУТА**

сандр, 5 студзеня 1906 г. — Зоф'я і Люба. Усе яны былі ахрышчаны ў Шудзялаве, што відавочна звязана з працай іхняга бацькі ў Слойцы. 19 красавіка 1909 г. нарадзілася Лідзія, а 25 верасня 1911 г. — Зіна — як дзясятае дзіця ў сям'і. Іх ужо хрысцілі ў царкве ў Саколцы, што сведчыць аб працы Антона Якуты ў Варонім Лузе. Яго жонка памерла ў 1912 г., калі найстарэйшай дачцэ Марыі было ўжо 18 гадоў, а Вользе — 15.

Антон Якута яшчэ да Першай сусветнай вайны вырашыў аддаць Вольгу вучыцца ў жаночы манастыр Хрыста Збаўцы ў Вірава над Бугам у Сядлецкай губерні. Увесь манастыр акружаў сад, магчыма закладзены Антонам Якутам, паколькі вырашыў туды пасласць вучыцца Вольгу. Манашкі вучылі там дзяўчат варыць, шыць, ткаць, пісаць і чытаць. Захаваліся здымкі з той школы. У 1915 г. манашкі выехалі ў Расію. Антон Якута, маючы на ўтрыманні сямёра непаўналетніх дзяцей, не падаўся ў бежанства.

Калі ўвайшлі немцы, Вольга атрымала пашпарт, як і ўсе тыя, што асталіся на месцы. У ім у 1916 г. упісана, што ёй 14 гадоў. Жыла тады ў Краснянах пад Саколкай. У 1918 г. апынулася ў Гарадзенскім сірацінцы. 12 лістапада 1918 г. як адна з першых закончыла шасцімесячныя курсы ў Беларускай настаўніцкай семінарыі ў Свіслачы і была прызнанай вучыцелькай у беларускіх школах. Дзе вучыла — невядома. Але праз год запісалася яшчэ на беларускія настаўніцкія курсы ў Вільні, якія адбываліся летам 1919 г. Пасля іх заканчэння разам з Марыяй Зіневіч атрымала накіраванне ў беларускую школу ў Вярхлессі на Сакольшчыне. Аднак польскія ўлады не дазволілі адкрыць там беларускую школу.



■ Беларускія настаўніцкія курсы ў Вільні ў 1919 годзе

Хутка не стала і самой Вольгі Якуты. Што з ёю здарылася? У сям'і перадавалася, што пакончыла жыццё самагубствам, да якога давяло нешчаслівае каханне. А як было на самой справе? Пахавалі яе на могілках у Саколцы, побач з маці.

Потым настала II Рэч Паспалітая. Антон Якута перажыў абедзве сусветныя войны і памёр у канцы 1944 ці ў пачатку 1945 г. Пахаваны таксама ў Саколцы.

Сяргей Чыгрын пытае, як склаўся лёс сясцёр і братоў Вольгі Якуты. Марыя памерла 28 сакавіка 1980 г. у Саколцы, Язэп — у 1920 г. выехаў у Савецкі Саюз і след па ім загінуў, Анна — памерла 12 мая 1968 г. у Саколцы, Марта — у 1998 г. у Краснянах, Аляксандр — у 1962 ці ў 1964 г. у Саколцы, Зоф'я — 19 студзеня 1999 г. у Саколцы, Люба — невядома дзе і калі, Лідзія — 8 лютага 1947 г. у Саколцы, Зіна — 22 жніўня 1979 г. у Саколцы. Дакументы і здымкі Вольгі Якуты перахавала праз усё жыццё яе сястра Анна, а пазней яе дачка Людміла, якая памерла 9 мая 2001 г. Дзеці пляменнікаў Вольгі Якуты зашмат пра яе не ведаюць апрача таго, што была найбольш адукаванай.

Спадчыну Вольгі Якуты перахаваў Юры Шах, чым спалучыў памяць пра маладую беларускую настаўніцу праз амаль стагоддзе. Можа варта будзе з'ездзіць на сотыя ўгодкі яе смерці на яе магілу беларускім дзеткам з Беластока, якія маюць шчасце вучыцца беларускай мове.

❖ Лена ГЛАГОЎСКАЯ

PS. Тых, хто хоча больш даведацца пра Вольгу Якуту, адсылаю да свайго ўспомненага тэксту ў «Czasopisie».
Шкада, што С. Чыгрын не падаў прозвішчаў усіх ахвярадаўцаў, якіх я папраўдзе не налічыла «больш за 60», як ён піша. Думаю, што варта пералічыць іх усіх, а раптам нейкае прозвішча нешта некаму скажа: Гайка — 1 рубель, М. Гулевіч — 2 рублі, Грышкевіч — 2 рублі, Міцько — 50 капеек, Барбовіч (магчыма: Бабровіч) — 1 рубель, Урбанянка — 50 капеек, Бусько — 2 рублі, Д. Гулевіч — 1 рубель, Шымук Ф. — 1 рубель, Кокін — 50 капеек, Палачанскі — 3 рублі, П. Палюшкевіч — 1 рубель, М. Старыкевіч — 2 рублі, В. Уласавец — 3 рублі, Н. Сініцкая — 1 рубель, Максім Гебец — 1 рубель, Е. Гаршанава — 1 рубель, Курачка — 3 рублі, М. Дрозд — 3 рублі, Дрозд Янка — 1 рубель, А. Брэская — 2 рублі 50 капеек, С. Брэскі — 2 рублі 50 капеек, Гіжук Ф. — 1 рубель 50 капеек, Рускевіч Ф. — 1 рубель 50 капеек, Лаўрукевіч К. — 3 рублі, Белановіч — 1 рубель, Ярашэвіч — 3 рублі, В. і А. Імшэннік — 3 рублі, А. Міхайлава — 3 рублі, Е. Раманоўскі — 3 рублі, Чэшык Юры — 1 рубель, В. Божка — 1 рубель, Е. Ярмантовіч — 1 рубель, Казак — 1 рубель, Кухарчук — 1 рубель, Я. Лукашэвіч — 3 рублі, Жэлязоўская — 1 рубель, Пракаповіч — 3 рублі, К. Чарняўскі — 5 рублёў.



Гісторыю сваёй краіны і свайго народа ведаць, зразумела, трэба, бо гэта найперш карысна. Ведаючы гісторыю, чалавек больш разумее сучаснасць, погляды суайчыннікаў, паводзіны тых ці іншых грамадскіх дзеячаў, якія апелююць да розных катэгорый насельніцтва. Але для кожнага чалавека гісторыя ўласнага народа складаецца і з гісторыі сваёй сям'і, хоць рэдка хто са звычайных людзей можа распавесці пра сваіх родзічаў, якія жылі паўтары-дзве сотні гадоў таму. І для таго, каб ведаць сямейную гісторыю, людзі часцяком звяртаюцца да тых, хто можа ім дапамагчы скласці так званае генеалагічнае дрэва. Хоць, зразумела, паслугі такія даволі дарагія, бо патрабуюць вялікай карпатлівай працы.

Аднымі з тых, хто можа пашукаць генеалогію той ці іншай сям'і, з'яўляецца генеалагічнае агенцтва Wenda, сайт якога месціцца па адрасе **http://genealogia-wkl.eu.** Літары wkl тут невыпадковыя. „Мэтаю агенцтва ёсць прадастаўленне паслуг у архіўных пошуках і апрацоўцы матэрыялаў, а таксама аказанне падтрымкі ўсім асобам, якія цікавяцца і даследуюць гісторыю свайго роду, продкі якіх паходзілі з былога Вялікага Княства Літоўскага (зараз Беларусь і частка Літвы). На працягу нашай працы мы падтрымліваем супрацоўніцтва з многімі навукоўцамі і даследчыкамі, навуковымі ўстановамі і архівамі Беларусі, Літвы, Латвіі, Расеі і Украіны, а таксама асобамі творчых прафесій", — адзначаецца ў самапрэзентацыі агенцтва на старонцы „Пра нас".

Паводле інфармацыі на дадзенай старонцы сайта, над складаннем генеалагічных дрэў працуюць, калі не лічыць старонніх спецыялістаў, з якімі Wenda супрацоўнічае, усяго толькі дзве асобы. Гэта — Вітольд Ханецкі і Ірына Завадская. Яны ў свой час скончылі Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт па розных спецыяльнасцях, якія, тым не менш, дапамагаюць ім у генеалагічных вышуках. „Занятак генеалогіяй — гэта складаная інтэлектуальная праца, якая патрабуе ведаў не толькі гісторыі, але і юрыспрудэнцыі мінулых стагоддзяў, тапаграфіі, геаграфіі, этналогіі і сацыялогіі, добрай арыентацыі ў фондах розных архіваў, доведу палеаграфіі, часта — валодання некалькімі мовамі, што можна набыць толькі праз гады карпатлівай практычнай працы", — тлумачаць яны.

Генеалагісты прапануюць розныя паслугі для тых, хто цікавіцца гісторыяй свайго роду. Пра гэта ходзіць на старонцы „Прапановы". Аднак яны адразу папярэджваюць, што калі каго цікавіць здабыццё звестак для атрымання „Карты паляка", то гэта не той выпадак. „Мы не займаемся пацвярджэннем польскіх каранёў і іншых нацыянальнасцей", — катэгарычна паведамляецца на дадзенай старонцы.

Свае пошукі Вітольд і Ірына вядуць на абшарах, якія калісьці ўваходзілі ў Віленскую, Віцебскую, Гродзенскую, Магілёўскую і Мінскую губерні. На старонцы „Абшары пошукаў" размешчана польскамоўная карта Літвы і Белай Русі, па ўсёй верагоднасці, XIX стагоддзя.

Як вышэй адзначалася, генеалагічныя вышукі каштуюць вельмі дорага. У гэтым можна ўпэўніцца, калі зазірнуць на старонку „Кошт". „Кошт генеалагічнага даследавання залежыць ад мноства фактараў, таму цана вызначаецца для кожнага асобнага даследавання", — пазначана там. Пры гэтым на некаторыя паслугі даецца дакладная сума і яна не меншая за 700 еўра.

❖ Аляксандр ЯКІМЮК

ДАТА З КАЛЕНДАРА

ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА

# 100 гадоў з часу Нясвіжскага антыбальшавіцкага паўстання

Насуперак гістарычным штампам і міфам, што ўкараняла савецкая ідэалогія, беларусы павінны ведаць і памятаць пра тое, як патрыёты краю змагаліся з акупантамі сто гадоў таму. Прыход бальшавікоў у 1919 г. у Беларусь адразу прынёс шматлікія рэпрэсіі і забойствы мясцовых грамадска-палітычных дзеячаў, рабаванне насельніцтва. Невыпадкова гэты год адзначаны на нашай зямлі цэлым шэрагам выступаў і наваг паўстанняў супраць бальшавіцка-расейскай дыктатуры.

14 сакавіка 1919 г. у горадзе Нясвіж пачалося антыбальшавіцкае паўстанне, у выніку якога жыхары вызвалілі горад ад бальшавікоў. Праз некалькі дзён яно было задушана прысланымі з Мінска чырвонаармейцамі.

Падзеі разгорталіся наступным чынам. У лістападзе 1917 г. у Нясвіжскім замку адбыўся з'езд бальшавікоў 2-й арміі Заходняга фронту, які абраў ваенна-рэвалюцыйны камітэт, што меў на мэце гвалтам падпарадкаваць сваёй волі беларусаў. На пачатку 1919 г., калі немцы пачалі пакідаць акупаваную імі Беларусь, адразу заварушыліся мясцовыя агенты Масквы. Перш за ўсё яны захапілі сабе маёнтак Малева і там коней, стварыўшы такім чынам чырвонаармейскі конны атрад. Гэты эскадрон на чале з Андрэем Пракапчуком рушыў на мястэчка Лань, дзе арыштаваў абранага насельніцтвам старшыню валаснога ўправы эсэра Кадэбскага і ўтварыў са свайго складу рэвалюцыйны камітэт, а потым, пасля таго, як немцы пакінулі Нясвіж, накіраваўся туды.

На пачатку 1919 г. Нясвіж быў заняты без супраціву бальшавікамі. У лютым пачалася польска-бальшавіцкая вайна і Войска Польскае пачало выцясняць Чырвоную Армію на ўсход. У гэтай сітуацыі частка жыхароў Нясвіжа, мясцовыя палякі і беларусы, прынялі рашэнне пра арганізацыю паўстання і вызваленне горада з рук бальшавікоў яшчэ перад прыходам польскіх войскаў. Арганізацыйны камітэт паўстання ўзначаліў дырэктар мясцовай школы Мячыслаў Валніст.

У ноч з 14 на 15 сакавіка 1919 г. паўстанцы занялі сама важныя будынкі горада і ліквідавалі мясцовы савет. Застаўшыся без войска, мясцовыя бальшавікі спрабавалі змагацца, аднак у час перастрэлкі загінулі старшыня выканкама Файнберг, камісары Розенблюм і Грынблат ды старшыня ЧК Татур. Камісар Крывашэін у сваёй справаздачы 19 сакавіка на пасяджэнні Мінскага губернскага рэвалюцыйнага камітэта заўважыў: „Досыць было мець 30 добра ўзброеных камуністаў, каб прагнаць банды з Нясвіжа".

Пасля заняцця горада ЧК арыштавала кіраўнікоў паўстання — Мячыслава Валністага, Палікарпа Календу, Юзафа Янушкевіча, Канстанціна Шыдлоўскага і Станіслава Іваноўскага. Яны былі перавезены ў даўні кляштар бенедыктынцаў, які бальшавікі выкарыстоўвалі як турму, а пазней, 24 сакавіка 1919 г., іх расстралялі ў лесе за горадам каля Альбы.

Пасля заканчэння польска-бальшавіцкай вайны, калі Нясвіж увайшоў у склад Польскай Рэспублікі, у горадзе ўсталявалі два помнікі ў памяць пра ахвяр паўстання. Адзін з іх знаходзіўся ў цэнтры горада і быў разбураны ў час вайны. Другі — надмагілле на каталіцкіх могілках у Нясвіжы, усталяванае 24 сакавіка 1926 г. на магіле арганізатараў паўстання. Яго фундатарамі былі вучні і настаўнікі мясцовай гімназіі. Пасля 1990 г. ён быў адрамантаваны і стаіць зараз. Мае форму вялікага, чатырохбаковага крыжа з чырвонага граніту, на якім напісаны прозвішчы расстраляных, дата смерці. Пасля 1944 г. з помніка быў сцёрты надпіс „pomordowani przez bolszewików".

❖ Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## Аб чаромхаўскай культуры

Першай, зрэшты адзінай культурнай установай у Чаромсе ў пасляваенны час была святліца Прафсаюза чыгуначнікаў на станцыі. Кіраўніком святліцы быў Нелюбовіч з Гайнаўкі. Тут дэманстраваліся кінафільмы. Кінамеханікам працаваў Юзэф Развіцкі, а білецёрам-касірам — жонка Нелюбовіча. Святліца змяшчалася ў адным з трох вайсковых баракаў. У двух апошніх змяшчаліся канторы рухова-гандлёвай службы, пачакальня для пасажыраў з білетнай касай, буфет ды Вузлавы камітэт ПАРП. У прафсаюзнай святліцы арганізавалі рознага віду культурныя мерапрыемствы. Мясцовыя чыгуначныя службы ладзілі навагоднія ёлкі для дзетак, вечарыны, прысвечаныя Дню жанчын, Першамаю, Кастрычніцкай рэвалюцыі ды іншае. Актыўна працаваў хор пад кіраўніцтвам Леакадыі Матушэўскай, дзейнічаў драмгурток. Я пастаянна наведваў выступы. Памятаю, што за заслонай «хаваўся» суфлёр, які падказваў акцёру тэкст, калі гэты забыўся. Апрача прафсаюзнага кіно святліцу штомесяц наведвала брыгада аб'язнога кіно Войск аховы пагранічча. Пагранічнікі арганізавалі вечаровыя сеансы на свежым паветры на прывакзальнай пляцоўцы. Экран завешвалі на драўлянай павеці. Пасля ў пачатках шасцідзясятых гадоў кіно са станцыі перавялі ў святліцу насычальні. Кінамеханікам працаваў Казік Міхальскі. Кузайская кавалерка кожную нядзелю падавалася на кінасеансы, асабліва на ваенныя і любоўныя кінакарціны. У Чаромху падаваліся пехатою ў кампаніі некалькіх чалавек (у насычальню было больш за два кіламетры). Перш-наперш заходзілі ў буфет на піва, пасля некалькіх «вялікіх» бакалаў падаваліся ў кіно. Пасля пабудовы клуба «Калеяж» у цэнтры пасёлка далейшая культурна-асветная праца квітнела ў новапабудаваным цэнтры. Кіраўніком «Калеяжа» быў назначаны Мікалай Гарадкевіч — самаахвярны дзеяч ды ініцыятар грамадскай працы ў Чаромхаўскай гміне. Арганізаваў ён, між іншым, духавы аркестр, якім па сённяшні дзень займаецца. Стаў ён ініцыятарам вядзення Гміннай хронікі. Чаромху пачалі наведваць вядомыя калектывы айчынай і замежнай эстрады, гумару і сатыры...

(працяг будзе)

❖Уладзімір СІДАРУК

## Дзень жанчын з кабарэ



Жанчыны-пенсіянеркі з Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета адзначалі сваё свята ў Гмінным асяродку культуры ў Нараўцы. Арганізавалі яго старшыня Раённага праўлення Польскага саюза пенсіянераў Ядвіга Карпюк і члены праўлення РП ПСП у Нараўцы. Прыехалі і прыйшлі кабеты з Нараўкі, Гушчэвіны, Лешукоў, Новага і Старога Ляўкова, Плянты і Скупава.

Мерапрыемства пачалося з выступлення кабарэ „Ружы восені" з Боцек Бельскай гміны. Былі скетчы, жарты, вершы і песні-рэтра. Яны для ўсіх спадабаліся, засярodзілі ўвагу гледачоў на працягу 45 хвілін. Пасля выступу кабарэ на сцэну выйшла Зіна Пацэвіч з Нараўкі (яна шмат гадоў спявае ў калектыве „Нараўчанкі") і праспявала спецыяльна для жанчын прыгожую польскую песню „Być kobietą".

Пасля мастацкай часткі жанчын і членаў кабарэ з Боцек папрасілі на пачастунак у святліцу. Тут жанчын з іх святам павіншаваў сакратар Нараўчанскай гміны Ян Хомчук. Па запрашэнні арганізатараў на сустрэчу спецыяльна прыехаў Барыс Казлоўскі з Новага Ляўкова (ён з жонкай Людмілай вядуць агратурыстычную гаспадарку „Бора-здруй" з рознымі атракцыёнамі). Спадар Барыс цікава расказаў, на што звяртаць асаблівую ўвагу, каб быць здаровым і ў здароўі пражыць доўгія гады. Яго парады былі цёпла ўспрыняты.

Арганізатары падрыхтавалі г.зв. фанты і кожны з удзельнікаў мерапрыемства пацягнуў жэрабя і ўзяў сабе дробную рэч на памятку.

Святкаванне было адмысловае. Жанчыны былі задаволены.

❖Тэкст і фота
**Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**



## 17.03 — 23.03

**(22.03. — 20.04.)** 20-22.03. маеш шанц пачаць праект, які на пару месяцаў прынясе табе задавальненне і карысць. Але 17-23.03. можаш апынуцца ў шматзначнай сітуацыі. 20.03. вызнач найважнейшыя мэты і — уперад! Зоркі шыкуюць поспехі. 20-22.03. удасца паразуменне ў пары, хаця паспрачаецеся за абы-што. З 19.03. (да 25.03.) добры час на працы пры ўпарадкаванні, пры рамонтах, асвяжэнні жылля. Калі маеш уласны бізнес, будзеш сніцца канкурэнцыі! 17-23.03. — час спрыяе амбітным выклікам, патрабуючым адвагі і заангажавання. Да 20.03. пільнуйся са здароўем.

**(21.04. — 21.05.)** 18-23.03. твой высілак і стараннi дадуць плён. 19-23.03. вельмі моцна пойдзеш уверх у вачах кіраўніцтва. Не бойся змен і эксперыментаў. 17-22.03. вельмі рамантычна і горача. Памогуць табе людзі, убачыш перад сабой зусім іншыя гарызонты. Для адвагі і змен не пабаішся скочыць у глыбокую ваду, толькі цяпер не выконвай фармальнасцей. Магчымая пустэча ў галаве ў важныя моманты ў народжаных у палове знака.

**(22.05. — 22.06.)** 16-17.03. здабудзеш важныя інфармацыі. 19-21.03. пераканаеш усіх да сваёй рацыі. 19-23.03. рамантычная аправа для любоўных гісторый. Але сувязі наладжаныя 17-23.03. хутка выпаляцца. Час правядзі на вучобе, курсах, упарадкаванні і арганізацыі месца працы. Каля 17.03. можа выбухнуць афёра на рабоце. Народжаныя ў II дэкадзе стануць перад дылемай: «святы спакой» за малыя грошы ці рызыка і выклікі за вялікія — мусіш быць упэўнены ў выбары. З 23.03. будзеш вельмі падатлівы на ўплывы.

**(23.06. — 23.07.)** 17.03. не ўблытайся ў інтрыгу. 20-22.03 — шанцы на павышэнне. Пазбудзешся «хвастоў». 20-22.03. не спяшайся з аднаўленнем кантакту, бо 20-22.03. зноў будзеш паранены. Не азірайся назад, бо праваронiш цудоўную нагоду знаёмства з кімсьці іншым. Можаш нанова скласці добрыя адносіны са знаёмымі і раднёй. Найважнейшае парабі да 20.03. 19-21.03. забяспеч свае інтарэсы, не пазычай грошай камусь, хто цябе падвёў.

**(24.07. — 23.08.)** 17.03. не павер у пустыя абяцанні. Твой высілак не пойдзе ўпустую. 18-23.03. горача ў спальні. Незалежна ад узросту можаш закахацца як ніколі ў жыцці (асабліва Леў з першых дзён знака). 19-23.03. апынешся ў прафесіі на піку, усе будуць віншаваць табе поспеху. Але патрабаванні павысяцца і трэба будзе больш старацца. Зайдзі да лекара на кантроль, зрабі марфалогію крыві.

**(24.08. — 23.09.)** 17-19.03. паваліш праціўнікаў сілай сваіх аргументаў, але не падпісвай дамоў. Магчымыя складанасці ў сувязях. Хопіць энергіі і моцнай волі на рэалізацыю планаў. Але павышэння цяпер не будзе. Цешся тым, што маеш. Пільнуйся ад алергіі (пыляць цяпер бярозы).

**(24.09. — 23.10.)** 17.03. пільнуйся, каб не папсаваць добрага ўражання ад сваёй асобы. 17-23.03. моцна залезуць табе пад скуру зайздрасць, плёткі і інтрыгі. 19-23.03. купі сабе нейкае цуда ў галерэі або з вітрыны кармы. 20-22.03. імпрэза падрыхтаваная табою пяройдзе да гісторыі! Але дбай аб свой страўнік, не атруціся. У пары дробныя перашкоды з 23.03.

**(24.10. — 22.11.)** 17.03. некарысныя акалічнасці могуць папсаваць планы. 17-23.03. апярэдзіш канкурэнцыю, пераможаш ворагаў. Справішся ў кожнай сітуацыі. Навучышся новага, асабліва калі ты з II дэкады. 19-23.03. пазмагайся за павышэнне ці паправу ўмоў на працы. 17-23.03. горача ў тваёй спальні. 19-21.03. па параду звярніся да старэйшых у сям'і. 19-23.03. маеш талент да негацыяцыі і карысных прапаноў.

**(23.11. — 22.12.)** 19-23.03. надзея на заканчэнне спрэчак у тваёй пары. 20-22.03. знойдзеш мэту да якой варта імкнуцца. 17-23.03. можаш сустрэць сапраўднае каханне, калі дасі яму вырасці з сяброўства. Стральцы, якім марыцца шлюб, сям'я, няхай зробяць першы крок у гэтым напрамку. 19-23.03. слухай парад лекара.

**(23.12. — 20.01.)** 19-21.03. паставіш на адпаведнага каня. 20-22.03. не перабольшвай сваіх праблем. 17-19.03. можаш адкрыць сэрца перад каханай асобай. Сям'я і сябры будуць насіць цябе на руках. Больш варушыся.

**(21.01. — 19.02.)** 17-23.03. будзеш схільны да імпульсіўных дзеянняў, якіх вынікі могуць быць жалюгоднымі. 19-23.03. нядаўна пачатыя рамансы могуць паглыбіцца — можа гэта тая асоба, якую ты чакаў усё жыццё? У парах агонь разгарыцца 17-23.03. 20-22.03. добрая нагода, каб правесці важныя змены. Падрэгулюй сабе стыль жыцця.

**(20.02. — 21.03.)** Мноства шчаслівых нагод. Удасца паафармляць важныя справы, вучыцца, працаваць, займацца мастацтвам. Слухай інтуіцыі. 17.03. можаш прыкмеціць дыямент пасярод шкельцаў! 19-21.03. можаш вельмі ўдала фіналізаваць старыя праекты. Фінансавая сітуацыя стабільная, але не выдавай больш чым зарабляеш. Схадзі да лекара — занядбаная хваробка можа замяніцца ў хранічную!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. звярок, які ўскочыў на першы беларускі банкнот = 22 _ 29 _ 23 _ 6 _;
2. метка, прымета = 30 _ 31 _ 32 _ 28 _;
3. шосты гук музычнай гамы = 11 _ 12 _;
4. арыстакрат у Старажытным Рыме = 4 _ 3 _ 1 _ 18 _ 19 _ 20 _ 21 _ 15 _;
5. горад на зліцці Піны з Прыпяццю = 13 _ 9 _ 25 _ 10 _ 16 _;
6. пчаліная сям'я = 24 _ 14 _ 33 _;
7. дзелавы цэнтр буйнага амерыканскага горада (*City*) = 34 _ 5 _ 35 _ 36 _;
8. вечназялёнае хвойнае дрэва сямейства кіпарысавых (*Thuja*) = 27 _ 17 _ 26 _;
9. крамлёўскі манарх = 7 _ 8 _ 2 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 7 нумара**

Біт, века, вока, Ева, Чаадаеў, шыба.

Рашэнне: **Бывае, што і авечка ваўка бадае**. Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Міхалу Байко** з Беластока.


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# У Дзмітровічах, на Камянеччыне (ч.ІІ)

Ёсць такія хвіліны ў падарожжы, калі ўсё, што здаецца звычайным, называеш па-новаму. У Дзмітровіцкай царкве ўвагу прыкавалі хоры з разнымі калонкамі, падвешаныя ў задняй частцы будынка. Відавочна, будавалі іх з думкай пра арганы.

Кадры ўніяцкай парафіі аднатаваны ў час візітацыі з 1819 года, калі пры царкве служыла 2 свяшчэннікаў: настаяцель Фёдар Будзіловіч ды яго памочнік а. Юліян Будзіловіч, апрача іх былі *дзяк*, *панамар* і арганіст Антон Філановіч.

Верагодна, тадышнія багаслужбы набліжаліся да касцельных набажэнстваў. Хоць, калі меркаваць па памерах і прыгожасці хораў, архітэктар быццам прадбачыў змены і новыя трэнды. Дваццаць гадоў пазней па згаданай візітацыі, калі царква стала праваслаўнай, месца, дзе стаялі арганы, запоўнілі жывыя галасы. На вышцы магло змесціцца ўжо да трыццаці-сарака дарослых асоб. Як не цікава, найбольшы росквіт харавога мастацтва ў Дзмітровічах выпадае на міжваенныя гады XX стагоддзя ды звязаны ён з родам Елінецкіх. Тым самым, якога ў знак пашаны і прызнання адмовілася рабаваць хеўра Акіма, што бушавала ля Камянца.

* * *

У дарозе на Камянеччыну першы раз гэтай вясны я пабачыла ключ дзікіх гусей.

У Дзмітровіцкай царкве, таксама на асаблівы спосаб, рыхтаваліся да духовай вясны.

— Яшчэ некалькі дзён і ўсё паздымаем з крыжоў, з ікон, з прастолаў, — кажуць жанчыны, — схаваем ручнікі, гафтаваныя пакрывалы, настольніцы. На віду стане Распяцце, а райскія дзверы заслоняць чорныя занавескі, каб нішто не каламуціла думак і належнай павагі для Хрыстовых пакут. Посны парадак будзе трываць да Вялікадня. Тады зноў усё расцвіце як вясна, вернуцца жывыя колеры і радасныя набажэнствы.

Нам пашанцавала паглядзець сярэдзіну гістарычнага храма два тыдні перад Вялікім постам.

Дзмітровіцкая царква з-за незлічонай колькасці разнаколерных ручнікоў і вышыванак напамінае музей. У іх адлюстравалася ўся палымяная вера, надзея, любоў. У гэтай страснай разнаколернасці мроілася нейкае абяцанне абнаўлення...

Думкі пра музей унушалі таксама фрагменты іканастасаў, развешаныя на сценах.

— А з якіх цэркваў іх прывезлі?

— Хто гэта сёння памятае, — пачулі мы ў адказ. — Калі б жыў бацюшка Гарбачук, то ён сказаў бы ўсё. Гэта пры ім вешалі *сеты* іконы...

У гады савецкай улады царква апынулася пад жахлівым прэсам дзяржавы. У Камянецкім раёне закрылі 33 цэрквы, з якіх 13 разбурылі цалкам. Толькі ў 11 служыліся багаслужбы. У ліку шчаслівіцаў апынулася і Дзмітровіцкая царква. Дзякуючы стараннем бацюшкі Міколы Гарбачука, яна ніколі не зачынялася. Святар праслужыў тут 53 гады.

На парафію прыйшоў з недалёкага Амелянца ў 1953 годзе. Пра атмасферу гэтых гадоў піша згаданы ўжо краязнавец Георгій Мусевіч:

*«На нашай тэрыторыі савецкая ўлада пачалася восенню 1939 г., таму рэпрэсіі супраць Праваслаўнай Веры ў меншай ступені кранулі нашых вернікаў і клір. Тым не менш былі забаронены хрэсныя хады, гучанне званоў, адпяванне набожчыкаў на могілках. Ужо пасля вайны над тымі, што вянчаліся ў царкве, хрысцілі дзяцей, хавалі нябожчыкаў паводле хрысціянскага абраду наладжвалі суды, а некаторых звальнялі з працы. Асаблівa агрэсіўны характар мела атэістычная прапаганда сярод вучняў. За рэлігійным бокам жыцця назіралі партыйныя органы, гэта яны праводзілі рэпрэсіі. На вялікія святы моладзі да царквы не пускалі дружыннікі, міліцыя, дзяжурныя настаўнікі...»**

* * *

У Дзмітровічах чакаў нас яшчэ адзін сюрпрыз. На кніжнай паліцы, падвешанай пад хорамі з разнымі калонкамі, выстойваў краязнаўча-гістарычны часопіс «Бельскі гасцінец». У ім архіўныя фатаграфіі і звесткі пра тую ж сям'ю Елінецкіх.

У прыпушчанскія Дзмітровічы Елінецкія пераехалі ў 1910 годзе з падсакольскага Шудзялава. Адразу пасля прыезду энергічны бацюшка Пятро аднавіў царкоўнае брацтва, якое налічвала 120 членаў. У хуткім часе за 90 рублёў (са сваіх складчын) набылі брацкую аксамітную харугву.

У статуце брацтва названыя мэты: садзейнічаць ліквідацыі зладзейства, хуліганства і п'янства, утрыманне парадку ў царкве і на могілках ды развіццё харавога і народнага спеву.

Каб падтрымаць малазямельных прыхаджан, узнікае Крэдытнае таварыства, якое ўзначаліць сам а. Пятро. У 1912 годзе ў Падомшы, Дамашэвічах, Сінітычах пачынаюць працаваць народнапрыхадскія школы. Таксама ў Дзмітровічах аднакласнае народнае вучылішча ператвораць у двухкласнае. Энергія і арганізацыйны талент бацюшкі шмат у чым аблегчаць лёсы бежанцаў. У 1915 годзе айцец Пятро арганізуе эвакуацыю прыхаджан з 16 вёсак. Паедуць у Ніжні Ноўгарад асобным цягніком з Берасця. На месцы сустрэне іх сам епіскап Ісаакім, у прыватнасці дваюрадны брат матушкі Марыі (з дому Лявіцкай). Уладыка дапаможа ім уладкавацца, накліча спачуванні і ветлівасць мясцовых людзей. Самыя бедныя сем'і атрымаюць карову...

Вернуцца ў 1919 годзе. Разам з імі царкоўныя кнігі, маёмасць. На бацькаўшчыне сустрэнуць іх запушчаныя гаспадаркі, голад, эпідэміі. Бацюшка і ў гэтай бядзе не апускае рук. Праз Чырвоны крыж даб'ецца харчовай дапамогі. Сам асабіста едзе ў Берасце суправаджаць транспарт харчавання. Усё гэта адбываецца зімой 1920 года. Праз недахоп цёплай адзежы застудзіцца ў дарозе. Памрэ ад запалення лёгкіх, на 41 годзе жыцця. Яго матушка Марыя астанецца з 9 дзяцьмі.



*Дзмітровічы 1932 г. Сядзяць злева: пан Пянько, Марыя Елінецкая, Марыя Елінецкая (матушка), Сцяпан Мусевіч, Шура Мусевіч, Елена Елінецкая (маці Георгія Мусевіча), Валя Елінецкая. Стаяць злева: Пятро Мусевіч, Міхал Елінецкі, Ніна Елінецкая, Іеранім Елінецкі, НН. Фота з архіва Георгія Мусевіча*

* * *

Ідзем яшчэ на прыцаркоўны пляц, дзе магілка а. Пятра. Доўга ўзіраемся ў чысты воблік святара-ідэаліста. Паходзіў з Чаркаскай губерні, з духавенства са шляхецкай радаслоўнай. Цягам адносна кароткага жыцця атрымаў многа ўзнагарод і царкоўных адзнак. Спрычыніўся да ўзвядзення царквы-мураванкі ў Шудзялаве (якую польскія ўлады загадаюць раскінуць у міжваенныя гады)...

— Дзякуючы гэтай сям'і ў Дзмітровічах адрадзілася традыцыя харавога спеву, — кажа Дарафей Фіёнік.

Мой субяседнік апавядае пра нотны архіў, які пакінуў у спадчыну сын Елінецкіх, Іеранім (народжаны ў 1910 годзе). Ён уласнаручна перапісаў 10 тамоў літургічных спеваў, больш за 400 кампазітараў. Пасаду псаломшчыка атрымаў у 1932 годзе. Раней хор вялі яго сястра Антаніна і брат Міхал. Усе яны мелі музычную адукацыю. Кожны царкоўны фэст у парафіі быў своеасаблівай музычнай падзеяй. Іх хор папаўнялі знакамітыя спевакі з Берасця.

Іеранім Елінецкі стварыў з вясковых людзей моцны зладжаны хор, які падзяляўся на чатыры партыі — басы, тэнары, сапрана і альты. Харысты два разы ў тыдзень збіраліся на спеўкі. Іх рэпетыцыі часта цягнуліся да поўнач. Цягам гадоў выспела непаўторнае гучанне хору. Іх лічылі феноменам, ды часта запрашалі спяваць у саборы ў Камянцы. Іераніма Елінецкага цанілі ў гады СССР. Яго пляменнік — той жа краязнавец Георгій Мусевіч піша:

*«Дзядзьку запрашалі на працу ў Сімферопаль, Ялту, Грозны, Курск. Але ён не пакінуў Дзмітровіч, усё жыццё быў верны царкве, дзе служыў яго бацька, айцец Пятро...».*

* * *

Спыняемся таксама ля жалезнага крыжа, размаляванага ў блакітны колер. Гэта магіла заслужанага а. Келясціна Будзіловіча (1830-1890):

— Тут пахаваны дзед Яраслава Кастыцэвіча, — паясняе Дарафей. — Адсюль родам Сафія Келясцінаўна, жонка пасынскага бацюшкі Васіля Кастыцэвіча, мама нашага Яраслава. Напэўна ён часта прыязджаў да дзядоў.

Апошняя вестка сплятае ў сардэчны вузельчык гісторыю Камянеччыны і Падляшша. Свет зноў здаецца малым, адкрытым. Я ўжо разумею, чаму раней заўсёды цешыў мяне від Дзмітровіцкай царквы.

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**



* У рэпартажы скарыстаны публікацыі Георгія Мусевіча, надрукаваныя ў «Бельскім гасцінцы» («Бельскі Гостінэць», 2008, № 1; 2013, № 2).

ISSN 0546-1960